**Пуцяводныя думкі**

Жыццё без жаданняў ні на што не патрэбнае.

*Айбек*

Памерці не страшна, страшна не жыць.

*А. Барбюс*

Цяжка жыць, калі нічога не зрабіў, каб заслужыць сваё месца ў жыцці.

*Д. Венявіцінаў*

# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 15 (998) ГОД XX 13 КРАСАВІКА 1975 г. ЦАНА 60 гр.




* * *

*Калі пачалася вайна для мяне?*
*У самае першае тое світанне,*
*Ад бомбы найпершай...*
*І ўсё як у сне —*
*Сустрэча з вайной і з табой развітанне.*
*Нядаўна сады адцвілі,*
*Па начах*
*Так пахла наўкол белавежскай сасною.*
*Я нават хадзіць асцярожней пачаў:*
*Я быў перапоўнен табой і вясною.*

*А што, мая родная, мог я зрабіць?*
*На захад мы ехалі ворага біць*
*І апынуліся раптам на ўсходзе.*
*Я слухаў загады, я быў у паходзе.*
*Ні ў чым не вінюся:*
*Не лашчыла нас*
*Дарога вайны,*
*Але гэта не ўцеха...*
*Пытаўся, шукаў — і ні слыху ў адказ,*
*Ні следу нідзе, ні далёкага рэха.*
*Я часта з надзеяй і страхам лавіў*
*На станцыях*
*Мільгануўшыя вочы.*
*Ва ўсіх ён вайною аднолькавы быў —*
*З трывогай і просьбай, той погляд жаночы.*

*І ноччу ў зямлянках прасіў я тайком*
*Цябе, можа быць, нежывую: прысніся.*
*Сабе загадаў я:*
*Салдацкім пайком*
*І з дзецьмі, і з бежанкай кожнай дзяліся.*
*І больш не было ўжо сустрэчы з табой,*
*А толькі з вайною было развітанне...*
*І кожнай вясною*
*Не першы свой бой —*
*Цябе ўспамінаю*
*І тое світанне.*

**Пімен Панчанка**

# ЦІКАВЫ  БАГАТЫ

Добра, што сёлетні **цэнтральны агляд беларускіх тэатральных калектываў** адбыўся якраз у Бельску. Элегантны новы Павятовы дом культуры з прасторнай сцэнай і вялікай глядзельнай залай стварaў надта добрыя ўмовы нашым самадзейнікам для паказу тых дасягненняў, якіх яны дабіліся ў бягучым культурна-асветным сезоне. І адразу скажам: у нядзелю 23 сакавіка бягучага года бяльчанам было на што паглядзець, а журы агляду пад старшынством **В. Філіпюк** у складзе: **В. Андрэюк, Я. Іванюк, М. Гайдука і С. Яновіча** прыйшлося раскусіць не абы-які арэх: сем калектываў, 78 удзельнікаў і пастаноўкі, якія ў суме ішлі каля сямі гадзін. Сапраўдны тэатральны марафон! Але зусім не знясільваючы і не нудны, бо надзвычай разнастайны і па жанрах і па ўзроўню выканання.

Агляд адкрыў старшыня ГП БГКТ **М. Самоцік.**

У катэгорыі драматычных калектываў сэрца гледачоў заваявала пастаноўка **„Мікітаў лапаць“** Міхася Чарота ў выкананні самадзейнікаў са **Скупава** Гайнаўскага павету пад кіраўніцтвам **Н. Сакоўскай.** Журы агляду таксама ачараваў скупаўскі калектыў, і яно прызнала яму (разам з калектывам з Паўлаў Беластоцкага павету) **першае** месца. І было за што! Сорак мінут атопак з нагі дурачка вычвараў на сцэне неймавернае: і сварыў сям'ю, і даводзіў суседзяў да згоды, а закаханую пару маладых да вянца, у той час уся зала трэслася ад смеху. Несмяротны лапаць! Як нехта калі-небудзь захоча напісаць гісторыю беларускай тэатральнай самадзейнасці БГКТ, дык гэта будзе якраз гісторыя пастановак „Мікітавага лапця“ і ўвасабленняў пастаці Мікіты. Розныя яны былі: і ўдалыя і пачварныя, але **Р. Кісялеўскі** са Скупава стварыў на сцэне постаць Мікіты непаўторную, за што і атрымаў спецыяльную ўзнагароду „Нівы“ за **найлепшае** выкананне ролі.

Як заўсёды, на высокім узроўні была пастаноўка выбраных сцэнаў з п'есы Л. Кручкоўскага **„Немцы“** ў выкананні заслужанага ветэрана нашай тэатральнай самадзейнасці, калектыву з **Паўлаў** Беластоцкага павету пад кіраўніцтвам **В. Мароз.** Вы-

**(Працяг на стар. 4)**



*Найлепшы выканаўца сёлетняга цэнтральнага агляду беларускіх тэатральных калектываў Рышард Кісялеўскі на бельскай сцэне.*

# ТОСТ ЗА СЯЛЯН

20 сакавіка 1975 года актавая зала Медыцынскай акадэміі ў Беластоку запоўнілася перадавымі сялянамі, майстрамі сельскагаспадарчай прадукцыі. Ваяводскія ўлады запрасілі іх сюды, каб узнагародзіць высокімі дзяржаўнымі ордэнамі і медалямі, а заадно, каб разам падвесці вынікі спаборніцтва за высокія ўраджаі, за развіццё жывёлагадоўлі.

Гляджу на іх, шукаю знаёмых, у якіх даводзілася пабываць у час сваіх шматгадовых журналісцкіх вандровак па Беласточчыне. Ёсць тут **Ян Зенчук** з Чарэмхі і **Анатоль Андрэюк** з Агароднікаў у Гайнаўскім павеце; ёсць **Мікалай Баенскі** і **Яўгеній Пінчук** з Мілейчыц, **Віктар Бартнічук** з вёскі Нурэц і **Люцына Вяжбіцкая** з Перляева ў Сямяціцкім павеце; **Антон Мураўскі** з вёскі Алексін у Бельскім павеце; **Баляслаў Буракевіч** са Скіблева на Дуброўшчыне; **Антон Тодрыка** — кіраўнік гміннай сельскагаспадарчай службы ў Саколцы. Стаяць шырокім кругам, чакаюць самай урачыстай хвіліны...

Чаго не бачыла за сваю шматгадовую гісторыю гэтая прасторная, прыгожая актавая зала. 200 гадоў таму назад гаспадарыў тут гетман Клеменс Браніцкі, які сялян лічыў ніжэй сваіх сабак. Тады нават не кожнаму

**(Працяг на стар. 4)**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“**

**Па-суседску мы жывем ● Чым хата багата ● Альховічы ● Дазвягаўся ● Тэкстыль Беларусі ● Беларускія Калумбы ● У дружалюбным абмене ● На стражы лесу ● Мала еднасці з навучаннем ● Калі сніцца сена і дзяўчына ● Весткі з Грыбаўца, Дубін, Шудзялава, Дубяжына, Гайнаўкі, Пянькоў, Паўночнага Вострава, Крыўца, Белавежы і інш. ● Песня „Miłość to raz”.**



*Панарама Бельска.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# НА СЛУЖБЕ НАРОДУ

*Сёння мы хочам пазнаёміць вас з М. Я. Саўчанкам — міністрам аховы здароўя БССР.*

Мікалай Яўсеевіч Саўчанка нарадзіўся 7 лістапада 1922 года ў сялянскай сям'і ў сяле Чырвоны Палац Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці. У шаснаццаць год ён заканчвае сярэднюю школу і паступае ў Мінскі медыцынскі інстытут. Але вайна супроць фашысцкай Германіі перапыняе вучобу, і Мікалай Саўчанка з першых жа дзён ідзе добраахвотнікам на фронт. Спачатку ён ваюе ў чыне санітарнага інструктара, а потым — старшага ваенфельчара ў разведвальным батальёне. Баявы шлях М. Саўчанкі адзначаны двума раненнямі, трыма ордэнамі і чатырма медалямі.

Скончылася вайна. І Мікалай Саўчанка вяртаецца на сваю родную Беларусь. Краіне, якая перанесла фашысцкае нашэсце, вельмі патрэбны былі кваліфікаваныя лекары. М. Я. Саўчанка зноў становіцца студэнтам. Атрымаўшы дыплом з адзначэннем, малады, але ўжо з вопытам медыцынскай працы ў арміі лекар Мікалай Саўчанка зноў на перадавой лініі барацьбы за здароўе чалавека. Актыўная, напружаная праца ў лячэбных установах, куды яго накіроўваюць пасля інстытута, дапамагае яму фармавацца як вопытнаму спецыялісту-уролагу, будучаму таленавітаму вучонаму. Гэта быў перыяд яго станаўлення, які быў бліскуча пацверджаны пры абароне дысертацыі на званне кандыдата медыцынскіх навук.

Пасля вышэйшай навучальнай установы можна стаць аспірантам на кафедры і нічым значным не ўзбагаціць навуку. І можна, як Мікалай Саўчанка, пачаць свой шлях ад пасады звычайнага лекара і ўзняцца да вышыні шырокага прызнання. Тое, што шматлікія з яго пазнейшых навуковых работ клініцыста-уролага сыходзяць да пачатку яго дзейнасці як лекара, характэрная рыса яго як вучонага. Ён выбірае праблемы, не толькі цікавыя для навуковых даследаванняў, але ў першую чаргу найважнейшыя для медыцынскай практыкі. З'яўляючыся дацэнтам кафедры ўралогіі Беларускага дзяржаўнага інстытута ўдасканальвання лекараў, у 1959 годзе Мікалай Саўчанка меў ужо 29 друкаваных навуковых работ па актуальных праблемах дарослай і дзіцячай уралогіі. Педагагічную і навуковую працу ён паспяхова сумяшчае з лекарскай — удасканальвае высокую аператыўную тэхніку галоўных хірургічных умяшацельстваў на органах мочапалавой сістэмы.



*Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР М. Я. Саўчанка адказвае на пісьмы выбаршчыкаў.*

*Фота В. Казлова.*

У 1965 годзе Мікалай Саўчанка паспяхова бароніць доктарскую дысертацыю, яму прысвойваецца званне прафесара па кафедры ўралогіі.

Усебаковае веданне медыцыны не толькі ў сваёй галіне, але і ў шэрагу блізкіх, высоўваюць яго на пасаду рэктара Беларускага інстытута ўдасканальвання лекараў — адной з лепшых устаноў па павышэнню кваліфікацыі лекарскіх і навуковых кадраў.

Праз нейкі час яго рэктарскай дзейнасці Мікалай Яўсеевіч Саўчанка назначаецца міністрам аховы здароўя БССР. Цяпер ён член урада рэспублікі. У распараджэнні міністэрства, якое ўзначальвае М. Саўчанка, знаходзяцца тры медыцынскія вышэйшыя навучальныя ўстановы, дзевяць навукова-даследчых інстытутаў і шэраг праблемных лабараторый, каля тысячы бальніц, у тым ліку такія буйныя лячэбна-прафілактычныя ўстановы, як рэспубліканская шматпрофільная клінічная бальніца ў Бараўлянах, сучасныя абласныя бальніцы з разгорнутай спецыялізаванай службай, рэспубліканскія спецыялізаваныя цэнтры. У гэтых медыцынскіх установах сёння працуе больш 25,5 тысяч кваліфікаваных лекараў, што ў пераліку на 10 тысяч насельніцтва складае каля 30 лекараў. (Дарэчы, да рэвалюцыі ў Беларусі на 10 тысяч насельніцтва прыпадала каля двух лекараў).

Апрача кіраўніцтва шырокай сеткай медыцынскіх устаноў рэспублікі, міністр М. Саўчанка з асаблівай цікавасцю ўнікае ў пытанні развіцця навуковай думкі.

Рабочы дзень Мікалая Яўсеевіча Саўчанкі пачынаецца рана. „Раніцой прадуктыўней працуецца“, — кажа ён. І роўна ў шэсць гадзін кожную раніцу ён сядае за свой рабочы стол. Нядаўна закончыў манаграфію на тэму: „Гіпаспадзія, гермафрадзітызм“, дзе падсумавана шматгадовая практыка аўтара і прапануюцца ўніфікаваныя прынцыпы лячэння прыроджаных дэфектаў. Гэта ўжо чацвёртая па ліку манаграфія, а ўсяго ён напісаў каля 200 навуковых работ, апублікаваных у розных выданнях.

На дзевятую гадзіну Мікалай Яўсеевіч спяшаецца да хворых у прывычную з маладых гадоў атмасферу клінікі. Тут, нягледзячы на свае такія высокія тытулы „акадэмік“, „міністр“, „загадчык кафедры уралогіі“, ён перш за ўсё лекар-хірург, вопытны кансультант, клапатлівы сябар сваіх пацыентаў.

Гадзіны, якія правёў М. Я. Саўчанка ў паліклініцы, чалавек, лекар па прызванню, з'яўляюцца самымі захапляючымі і ў нейкай ступені нават стымулююць увесь яго далейшы працавіты дзень.

**В. Кузняцова**

# БГКТ ХРОНІКА

## З жыцця варшаўскага аддзела БГКТ

*(З квартальнай справаздачы)*

### СУСТРЭЧА З БЕЛАРУСКІМІ ПІСЬМЕННІКАМІ

У першым квартале гэтага года ў галіне лектарскай дзейнасці варшаўскі аддзел БГКТ правёў шмат цікавых мерапрыемстваў.

У другой палове студзеня г.г. пабывала ў Польшчы дэлегацыя вядомых беларускіх пісьменнікаў у складзе: Максім Танк, Алесь Адамовіч, Мікола Ткачоў, Генадзь Кляўко, Генадзь Бураўкін і Іван Чыгрынаў.

27 студзеня г.г. кіраўніцтва Дома савецкай культуры супольна з аддзелам БГКТ у Варшаве наладзіла сустрэчу з беларускімі пісьменнікамі.

Пісьменнікаў прадставіў М. Ткачоў, вядомы беларускі празаік, дырэктар выдавецтва „Мастацкая літаратура“.

М. Ткачоў пазнаёміў прысутных з выдавецкімі планамі выдавецтва „Мастацкая літаратура“. Сцвердзіў ён, што ўсё больш перакладаецца польскай літаратуры на беларускую мову. Успомніў таксама аб тым, што ў трэцім квартале г.г. выйдуць з друку ў выдавецтве „Мастацкая літаратура“ зборнікі А. Барскага „Мой бераг“ і В. Шведа „Сяброўства“.

Г. Кляўко зрабіў кароткую ацэнку дасягненняў беларускай мастацкай літаратуры, падкрэсліваючы яе бурнае развіццё ў апошнія гады. Займае яна

**(Працяг на стар. 5)**

# ШТО НОВАГА?

## Какаін — бізнес гангстэраў і генералаў

Кока здаўна вядома індзейцам у Паўднёвай Амерыцы. Некалі ў Андах лісце і плады гэтай наркатычнай расліны ўскладаліся мясцовымі жыхарамі на алтар Сонца. Сяляне ў Андах і балівійскія гарнякі выкарыстоўвалі яго як сродак для прытуплення пачуцця голаду. У нашы дні кока служыць для наталення ненасытнай прагі нажывы ў міжнароднай банды гандляроў наркотыкамі, чыё павуцінне аблытала практычна ўсю Лацінскую Амерыку і ЗША. Журналісты далі ёй назву „Кока ностра“ па аналогіі з вядомай італа-амерыканскай мафіяй „Коза ностра“. Новыя Аль Капонэ і да яго падобныя гангстэры знайшлі ў радзе краін кантынента спрыяльную глебу для працвітання. Тым больш, што какаін дае фантастычныя даходы. Пасля ператварэння ў белы парашок адзін яго кілаграм каштуе 200 долараў, а прадаецца спажыўцам за 2.000 долараў. Прыбытак — 900 працэнтаў!

У гэтай даходнай, але бруднай справе ахвотна ўдзельнічаюць дыктатары і бізнесмены, дыпламаты і генералы. Стала вядома, напрыклад, што пасольства Чылі ў Вашынгтоне да нядаўняга часу служыла адным з апорных пунктаў гандляроў наркотыкамі. Людзі Пінача з асаблівым задавальненнем раскрывалі дыпламатычныя валізы, у якіх дастаўляліся ў Сант'яга нароўні з рознымі „указамі“ хунты і цэлафанавыя пакецікі з белым парашком. Іх адпраўляў сюды нейкі унтэр-афіцэр ваенна-марскога флоту Чылі Эдуарда Дыас. Зразумела, за спіной сціплага ваеннаслужачага стаяць куды больш значныя фігуры фашысцкага рэжыму Чылі. Нават ваенныя самалёты хунты дастаўлялі „тавар“ прама з Сант'яга ў Вашынгтон. Паводле сціплых падлікаў, толькі гэта група змагла за кароткі тэрмін зарабіць на рэалізацыі наркотыкаў каля 33 мільёнаў долараў. Прычым прагнасць і нахабства чылійскіх дзялкоў набылі такія маштабы, што ў ЗША вымушаны былі, нарэшце, прыняць супраць іх адпаведныя меры... Дарэчы, з радоў чылійскай арміі выйшаў і вядомы „кароль какаіну“ Аскар Скелья Авенданьё — мільянер, уладальнік авіятранспартнай кампаніі „Транспортэс аэраскелья“. Ён развозіў свой „тавар“ па ўсяму заходняму паўшар'ю.

Асаблівую ролю ў міжнародным гандлі наркотыкамі адыгрываюць кубінскія контррэвалюцыянеры, многія з якіх з'яўляюцца выкармкамі ЦРУ ЗША. Неяк адзін з адказных чыноўнікаў міністэрства юстыцыі ЗША Джон Уонер паскардзіўся: „Гэтыя гандляры наркотыкамі, асабліва былыя супрацоўнікі ЦРУ, сталі моцным арэшкам. Яны нават умудраюцца праводзіць удалыя контрразведвальныя аперацыі супраць нашай разведслужбы“.

Кантрабандысты аперыруюць у Сант'яга і Асуньёне, Ла Пасе і Мантэвідэо, у Маямі і Санта-Дамінга.

„Непрыступнасць“ міжнароднай банды і расшырэнне яе дзейнасці тлумачыцца не толькі вялікай колькасцю яе пастаўшчыкоў і апекуноў, але і самой прыродай капіталістычнага грамадства. Так ці інакш размова ідзе аб буйным бізнесе — а грошы ўсюды адчыняюць дзверы злачынцам. Калі адзін з „кур'ераў“ гэтай сеткі быў схоплены ў Нью-Йорку, за яго адразу ж быў унесены залог у 300.000 долараў. І ён быў выпушчаны на свабоду. Што такое адна трэць мільёна для „Кока ностра“, калі ў абароце мільярды долараў? І злачынны бізнес працягвае працвітаць, карыстаючыся паблажлівасцю ўлад і саўдзелам у ім рэакцыйных дыктатур кантынента.

**Ю. Гвоздзеў**

# TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 13.IV.** 6.25 Tech. Rol. Mat. 6.55 Hod. zwierz. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.30 Antena. 10.50 Ostatni rok — film dok. TV ZSRR (Drogi Zwyc.). 12.20 Dzien. 12.40 Horyzonty. 13.10 Pios. dla Ciebie. 13.55 Przegl. polon. 14.25 Dla dzieci. 15.15 Los. Toto-Lot. 15.30 Piórkiem i węgl. 15.55 Nie tylko dla pań. 16.25 Tele-Echo. 17.25 Sport. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dzien. 20.20 Klotylda — film ser. ang. Bel Ami odc. II. 21.05 Wesele — pr. rozr. 22.05 Sport.

**Poniedziałek 14.IV.** 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Mat. 14.30 Nurt — Nauki polit. 15.10 Pr. dnia. 15.15 Dzien. 15.25 Dla dzieci. 16.15 Hokej CSRS — Szwec. 18.30 Kr. Warsz. i Maz. 18.50 Szare na złote. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: A. Mularczyk — Trawą wyrosnąć. 21.20 Pegaz. 22.05 Śpiewa Chris Doerk. 22.00 Dzien. 22.45 Oferty.

**Wtorek 15.IV.** 6.30 Tech. Rol. Wskaz. met. 7.00 Mat. 7.55 Adam Sangala — film ser. CSRS. 9.15 Klotylda — film ser. ang. (Bel Ami) odc. II. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) Muzeum Roln. 11.05 (kl. III lic.) J. pol. W małym dworku. 11.55 Dla szkół śred. Rodzina współcz. Trzy pokolenia. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Dla dzieci. 17.10 Na wielkim i małym ekranie. 17.40 Studio Tel. Mł. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Przyp., radz. 18.45 Eureka. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Adam Sangala — film ser. CSRS. 21.30 Świat i Polska. 22.15 Co nam zostało z tych lat. 22.40 Dzien. 22.55 Sport.

**Środa 16.IV.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chem. Zasady. 9.30 Inżynier z tajgi — film ser. radz. odc. II. 11.05 Dla szkół: (kl, VIII) Fiz. Jak rozchodzi się światło. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przyg. Fiz. 15.50 Nurt — Naucz. pocz. mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Dla mł. widzów. 17.10 Inf., Tow., Prop. 17.20 Los. Mał. Lot. 17.30 Inżynier z tajgi — film ser. radz. odc. II. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Świadkowie. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Hokej Finl. — Polska. 22.30 Dzien. 22.45 Sport.

**Czwartek 17.IV.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mat. 8.00 Kurs Informat. 9.00 Dla szkół: (kl. VIII i I lic.) Przysp. obr. Pierwsza pomoc. 10.00 (kl. VI) Hist. T. Rejtan. 11.05 (kl. VII) J. pol. B. Prus. 11.40 Złota moneta — film fab. RFN. 12.55 Dla szkół: (kl. I—III lic.) J. pol. List. 13.25 Tech. Rol. J. pol. 13.55 Mech. rol. 14.25 Mat. w szkole. 15.00 Pr. dnia. 15.05 Dzien. 15.15 Dla mł. widzów. 16.15 Hokej ZSRR — CSRS. 18.30 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Kartki z albumu. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Złota moneta — film fab. RFN. 21.20 Listy i polityka. 21.50 Zaśpiewajmy to jeszcze raz. 22.20 Dzien. 22.35 Sport.

**Piątek 18.IV.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mech. rol. 9.00 Dla szkół: (kl. III) A czy znasz ty bracie młody. 9.35 Drogi mężczyzna — film fab. CSRS. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Wych. ob. Telefon X zawsze odpowiada. 12.00 (kl. VIII) Geogr. W Rep. Indii. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.30 Politech. Kurs przygot. Mat. 15.35 Nurt — Ped. 16.05 Pr. dnia. 16.10 Dzien. 16.20 Dla dzieci. 16.55 Koncert Gal. z ok. inaugur. dekady Kultury Radzieckiej. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Obibok — kom. TV CSRS. 20.50 Panorama. 21.30 Hokej Polska — USA (III terc.). 22.30 Dzien.

**Sobota 19.IV.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mat. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Zool. Z życia ptaków. 10.30 Monolog — film fab. radz. 13.00 Tech. Rol. Fiz. 13.30 Upr. rośl. 14.00 Pr. dnia. 14.05 Pr. I prop. 14.20 Kr. Warsz. i Maz. 14.40 Red. Szk. zap. 14.50 Inf. Wyd. 15.10 Dzien. 15.20 P. nożna Włochy — Polska. 17.15 Studio Mł. 18.00 Pr. publ. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Monolog — film fab. radz. 22.00 Dzien. 22.20 Sport. 22.35 Pr. rozr. 23.15 Róże Montreaux.

# ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 11.IV** — 8.30 Film ser. 13.25 Film fab. 17.35 Film fab. 19.30 Koncert.

**Sobota 12.IV** — 17.00 Koncert. 17.25 Film fab. 18.15 Sport. 19.30 Operetka. 20.15 Hokej. USA—ZSRR.

**Niedziela 13.IV** — 12.20 Film fab. 13.45 Panorama. 14.30 Koncert. 16.15 Film anim. 16.45 Klub film. 17.50 Hokej. Szwecja—Polska. 3 terc. 18.30 Koncert. 19.30 Balet.

# КІНО

**Białowieża** Burza nad Azją — radz. 15—16. Czyste niebo — radz. 17—18. Człowiek z karabinem — radz. 19—20.

**Czeremcha** Nauczyciel śpiewu — radz. 15—16. Telegram — radz. 19—20.

**Czyże** Szukam człowieka — radz. Labirynt miłości — rum. 16—20.

**Dubicze Cerkiewne** Ostatnie wakacje — radz. Tylko umarły odpowie — pol. 16—20.

**Gródek** Ucieczka King Konga — jap. 15—16. Przygody Hucka Fina — radz. 19—20.

**Kleszczele** Lampy naftowe — czes. 15—16. Dziewczyna inna niż wszystkie — ang. 17—18. Rajdowa sympatia — czes. 19—20.

**Michałowo** Marianna 0555 — radz. 15—16. Potop cz. I pol. 17—20.

**Milejczyce** Dramat namiętności — kanad. 15—16. Banda Asa Kier — radz. 17—18. Zapamiętaj imię swoje — radz. 19—20.

**Narew** Pomyłka szpiega — radz. Poczekam, aż zabijesz — czes. 16—20.

**Narewka** Potop — pol. Wkrótce nadejdzie wiosna — radz. 16—20.

**Nurzec** Słuchajcie bicia dzwonów — jug. 15—16. Pierwsza spokojna noc — wł. 17—18. Pułapka w delcie Dunaju — rum. 19—20.

**Rajsk** Ciemna rzeka — pol. Stopień ryzyka — radz. 16—20.

**Suchowola** Dramat namiętności — kanad. Gra złudzeń — wł. 16—20.

B.Z.Graf. zam. 1169 P-1



*Наш каляндар*

# НАСТАЎНІК-ЗМАГАР

Быў чалавекам, што ўсяго сябе прысвяціў справам працоўнага люду былой Заходняй Беларусі.

**Сымон Аляксандравіч Рак-Міхайлоўскі** нарадзіўся 14 красавіка 1885 года ў сялянскай сям'і ў вёсцы Максімаўка Вілейскага павету былой Віленскай губерні. Хоць на гаспадарцы ў бацькоў не пераліваласе і цяжка было канец з канцом звязаць, але яны ад сваіх вуснаў адымалі, каб толькі свайго здольнага і працавітага сына „вывесці ў людзі“, даць яму адукацыю. А хлопец адразу выбраў сабе шлях служэння народу: пасля заканчэння Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі паступае ў Педагагічны інстытут у Феадосіі і ў 1912 годзе, ужо з дыпломам высокакваліфікаванага педагога, пачынае працу ў школьніцтве. Але неўзабаве С. Рак-Міхайлоўскага апранаюць у салдацкую шынель, і ён апынаецца ў акопах І-й сусветнай вайны. У вадавароце падзей, выкліканых Лютаўскай рэвалюцыяй, а затым Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй і Грамадзянскай вайной, спачатку траціць арыентацыю, а затым шукае правільнага шляху, які б прывёў яго да служэння працоўнаму народу.

Уступае ў Беларускую сацыялістычную Грамаду, потым з'яўляецца членам Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі і іншых арганізацый. З 1918 года настаўнічае ў Гродзенскай і Віленскай беларускіх гімназіях. У 1920 годзе ў мястэчку Баруны на Ашмяншчыне, дзе яшчэ была жывой памяць аб манастырскай школе, у якой вучыліся польскія пісьменнікі А. Адынец, Ю. Корсак, І. Ходзька, засноўвае С. Рак-Міхайлоўскі Беларускую настаўніцкую семінарыю. Аднак яе праз два гады працы закрываюць. Усё ж абаяльная постаць выдатнага настаўніка і дырэктара карыстаецца вялікай папулярнасцю і любоўю сярод насельніцтва Заходняй Беларусі і яго выбіраюць у 1922 годзе паслом у Сейм. У тагачасным польскім парламенце ён спачатку ўваходзіць у рэвалюцыйна-дэмакратычнае крыло беларускай нацыянальнай пасольскай фракцыі, а потым становіцца адным з ініцыятараў стварэння пасольскага клуба Беларускай сялянска-рабочай „Грамады“.

Пераломным момантам у жыцці С. Рак-Міхайлоўскага быў дзень 24 ліпеня 1925 года, у якім паслы Б. Тарашкевіч, П. Валошын, П. Мятла і ён заснавалі Беларускі пасольскі клуб „Грамада“ і разгарнулі ажыўленую дзейнасць па стварэнню масавай легальнай рэвалюцыйна-дэмакратычнай арганізацыі пад гэтай жа назвай. Браніслаў Тарашкевіч як старшыня Цэнтральнага камітэта „Грамады“ і Сымон Рак-Міхайлоўскі як намеснік старшыні ЦК „Грамады“ адыгрываюць у гэтай арганізацыі вядучую ролю. Іменна С. Рак-Міхайлоўскі апрацоўвае праект стварэння і статут „Грамады“, якая праз два гады разрастаецца ў звыш 100-тысячную сялянска-рабочую арганізацыю. У той жа час ён становіцца на чале Таварыства беларускай школы і ўваходзіць у склад рэдкалегій газет, што выдавала „Грамада“. Публікуе шэраг артыкулаў, выступае на сходах і мітынгах, прамаўляе ў Сейме.

12 снежня 1925 года С. Рак-Міхайлоўскі выступіў у Сейме з праграмай патрабаванняў пасольскага клуба „Грамады“ ў адносінах да тагачаснага ўраду: раззбраення і мірнай палітыкі, заключэння эканамічнага і палітычнага саюза Польшчы з СССР, амністыі для палітычных вязняў і адмены

**(Працяг на стар. 5)**

Прыемна бачыць, што вакол **„Беларускага календара“** разгарнулася такая ажыўленая дыскусія.

Аднак у сваім выказванні я не збіраюся лунаць у недасяжных аблоках, будаваць фантастычныя крыштальныя замкі ды строіцца ў пёркі беспамылковага вялікага тэарэтыка „каляндарнай“ справы. А гэта таму, што мне даводзіцца калупацца ў штодзённых справах БГКТ-оўскага надта ж зямнога ўзлоння і быць, на дадатак, рэдактарам „Беларускіх календароў“ на 1970 і 1975 г.г., а таксама ўчыніць такую невыбачальную жыццёвую мі проста: у БГКТ на копы можна лічыць розных мудрых дарадчыкаў, якім павінен быць каляндар, ды б'ючыхся кулаком у свае грудзі абяцальшчыкаў, што засыплюць рэдактара сваімі дасканалымі артыкуламі. Але калі той лёгкадумна паверыць усяму гэтаму, дык праз пару дзён аказваецца, што большасць гэтых „каштоўнейшых“ парад не варты выедзенага яйца, а абяцаныя „геніяльныя“ артыкулы ды „фенаменальныя“ здымкі ніколі не будуць напісаны ці зроблены, хоць рэдактар будзе вымольваць іх штодзённа на каленях у аўтараў.

За прыкладамі не трэба далёка чым ХХ-годдзем БГКТ. Аднак па сённяшні дзень гэтага артыкула няма і, праўдападобна, не будзе. Ці возьмем нашых літаратараў. Яшчэ ў снежні мінулага года была разаслана просьба, каб даслалі па адным сваім творы для змяшчэння ў календары на 1976 г. Хоць тэрмін дасылкі ўжо даўным-даўно мінуў, на жаль да сённяшняга дня сярод звыш 20-ці нашых паэтаў і празаікаў на пальцах адной рукі можна палічыць тых, што даслалі свае творы. Але затое на кожным пасяджэнні, пленуме ды з'ездзе ў нашым таварыстве бясконца чуюцца іхнія ляманты, што яны не маюць




# ЯКІ САМІ ЗРОБІМ, ТАКІ І БУДЗЕ

неразважлівасць, як згадзіцца быць рэдактарам „Беларускага календара“ на 1976 год. І каб не выйшла так, як у вядомай прыказцы „без мяне мяне ж жанілі“, хачу некалькі слоў сказаць аб той „кухні“, у якой варыцца ды смажыцца штогод наш каляндар.

Шчырую праўду напісалі **С. Яновіч:** „кожны наступны рэдактар „Беларускага календара“ пачынае сваю дзейнасць на пустым месцы і, пераважна, на грамадскіх пачатках“ і **Г. Валкавыцкі:** „а колькі разоў рэдактар назначаўся ў пажарным парадку, калі ўжо гарэлі ўсе тэрміны“. І ўжо ад сябе самога дадам: такі няшчасны рэдактар клеціў нешта падобнае на каляндар і прысягаў сабе, што ўжо да самай смерці не возьмецца болей яго рабіць. Чаму? Вельхадзіць. Вось хоць бы **Ул. Юзвюк,** які звыш 9 год працаваў сакратаром ГП БГКТ і найлепш арыентуецца ў развіцці беларускага самадзейнага мастацкага руху ў мінулым дваццацігоддзі нашага таварыства. Спачатку ён паабяцаў напісаць вельмі патрэбны артыкул на гэтую тэму ў юбілейны каляндар на 1976 г. Але праз пару тыдняў пахіснуўся ў сваіх абяцаннях, а потым і наадрэз адмовіўся напісаць. Што ж, відаць, гэтага артыкула не прачытаем. А шкада!.. Або цяперашні старшыня літаратурнага аб'яднання „Белавежа“ В. Швед. Яшчэ ў верасні 1974 г. абяцаў ён і запэўніваў, што напіша ў каляндар на 1976 год артыкул аб беларускім літаратурным руху ў Народнай Польшчы ў сувязі з надыходзядзе публікаваць свае творы. Абмяжуюся гэтым, бо ўсіх прыкладаў падобнай „саліднасці“ і „гатоўнасці прыйсці з дапамогай рэдактару календара“ і на валовай скуры не спішаш. Што ж, змесцім тыя, што былі дасланы.

Зусім не лепш выглядала праца з так званымі рэдакцыйнымі калегіямі паасобных календароў. І аж дзіва бярэ, якую кароткую памяць маюць некаторыя нашыя шаноўныя дыскутанты, калі прапануюць вярнуцца да „рэдкалегіяльнай“ практыкі. Часцей за ўсё іхні „ўклад“ у апрацаванне выдання абмяжоўваўся да змяшчэння іх прозвішча сярод членаў „рэдкалегіі“.

**(Працяг на стар. 5)**

*Наша галерэя*



*Л. Чарняўскі, Мінск. Касманаўт (карэнне).*

НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

# Яны заваявалі другое месца



Беларускі ліцэй у Гайнаўцы з'яўляецца кузняй выдатных валейбалістак. Такія словы неаднойчы даводзілася мне пачуць ад прадстаўнікоў спартыўных улад у Гайнаўцы. Гэта перш за ўсё дзякуючы настаўніку мгр Мікалаю Врублеўскаму, які на працягу многіх гадоў вядзе заняткі па фізкультуры з вялікім энтузіязмам. Штогод у беларускім ліцэі заканчвае вучобу некалькі дзесяткаў асоб і яны адыходзяць у свет. На іх месца прыходзяць выпускнікі пачатковых школ, у якіх бываюць розныя адносіны да спорту. Настаўнік М. Врублеўскі ўмее заахвоціць кожнага.

У гэтым навучальным годзе валейбалісткі з Гайнаўскага беларускага ліцэя занялі ў ваяводскіх спартыўных спаборніцтвах сярэдніх школ заслужанае другое месца. Прычым удзельнічала ў іх 28 жаночых каманд. Прайгралі толькі з камандай сяткоўкі з ІІ агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку, які з'яўляецца самым моцным канкурэнтам і ў гэтым годзе лічыцца адным з найлепшых у краіне.

Выступалі ў складзе: Сабіна Кердэлевіч, Галіна Кердэлевіч, Галіна Грыц, Ніна Тафілюк, Валя Карэтка, Гражына Асташэўская, Тамара Шахалевіч, Валя Раманчук і Ліля Грыгарук. На здымку валейбалісткі разам з трэнерам мгр Мікалаем Врублеўскім, які прысеў у першым радзе, і дырэктарам ліцэя мгр Уладзімірам Стэпанюком.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

(Працяг са стар. 1)

# ТОСТ ЗА СЯЛЯН

шляхцюку можна было наблізіцца да яго палаца. А ўжо і ў галаву не прыходзіла, каб узабрацца гэтымі параднымі сходамі, якія падтрымоўваюць на сваіх магутных плячах старажытныя асілкі з мармуру, і папасці ў цэнтральную частку палаца, у гэтую актавую залу.

**А цяпер тут сяляне. Нешта сімвалічнае адчуваецца ў гэтым акце. Іх прымаюць як самых важных гасцей. За іх здароўе, за далейшыя поспехі ў працы і сямейным жыцці ўзнімае тост I сакратар Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку Здзіслаў Куроўскі. Заслужылі яны на гэта сваёй плённай працай.**

Пасля, ужо ў канферэнцыйнай зале Ваяводскага ўпраўлення, пры болей рабочых абставінах, ваявода беластоцкі др З. Спрыха, звяртаючыся да іх, заявіў:

— Вынікі вашай працы яшчэ раз падкрэсліваюць нашы магчымасці.

Сапраўды, многія з прысутных сялян дасягнулі ў сваіх гаспадарках таго ўжо ўзроўню, які для ваяводства плануецца на 1980 год.

Расказвае **Люцына Вяжбіцкая** з вёскі Перляева ў Сямяціцкім павеце, энергічная, бойкая жанчына, узнагароджаная медалем „Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі".

— У мяне 16-гектаровая гаспадарка. На працягу апошніх чатырох год сямейныя справы так у нас склаліся, што я вымушана была гаспадарыць адна, без мужа. У 1972 годзе прыступіла я да конкурсу ў рамках акцыі „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная". Тады я рашыла павысіць паказчыкі ў сваёй гаспадарцы на 100 прац. I мне, — падкрэслівае яна з гонарам, — гэта ўдалося. **Цяпер я гадую 8 малочных кароў, 20 мясных яловак і бычкоў.** Гэта мая асноўная спецыялізацыя, без якой цяпер у сельскай гаспадарцы няма добрых вынікаў. Але і ў палявых культурах я не адстаю. **44 цэнтнеры з гектара — гэта ў мяне сярэдні ўраджай збожжа за мінулы год, бульбы было 200 цэнтнераў, а сена — звыш 100 цэнтнераў.** Праўду кажу, — б'ецца ў грудзі жанчына і дадае, што мінеральных угнаенняў у яе гаспадарцы прыпадала ў мінулым годзе **па 240 кг хімічна дзейснага рэчыва** на адзін гектар поля, што на гэты год паказчык па ўгнаенню павялічыцца ў яе **да 340 кг NPK на адзін га.** Такога ўзроўню ўгнаення яшчэ наша Беласточчына ніколі не бачыла.

— Мой сын, — гаворыць жанчына, — закончыў сельскагаспадарчы тэхнікум і цяпер ён разам са мною рашае, што, як і дзе будзем рабіць. Разам мы запланавалі, што ў **гэтым годзе адкормім у сваёй гаспадарцы на 10 штук маладога быдла больш.** I другіх гаспадароў заклікаем да гэтага.

Амаль кожны з прысутных сялян мог бы пахваліцца падобнымі вынікамі. Каб заваяваць званне „**Прыкладны гаспадар**", неабходна дабіцца на 25 прац. лепшых вынікаў, чым сярэднія ў гміне. Каб атрымаць дыплом „**Майстра сельскагаспадарчай прадукцыі**", трэба даказаць на практыцы, што вынікі ў гаспадарцы перавышаюць на 50 прац. сярэднія паказчыкі ў гміне. Патрабаванні канкрэтныя і ясныя. Ніякага махлярства быць не можа. I вось ад 1972 года гэтыя **ганаровыя званні заваявала ўжо звыш 11 тыс. сялян Беласточчыны.** Для прыкладу: **Раіса Куптэль,** якая спецыялізуецца ў гадоўлі малочных кароў, і **Марыя Назарук,** якая рашыла гадаваць авечак — абедзве з вёскі **Ягаднікі** ў **Гайнаўскім** павеце — **ужо тройчы заваявалі званне „Майстра..."**

Калі параўнаць вынікі гаспадарання гэтых перадавых сялян з сярэднімі паказчыкамі ў ваяводстве, тады аказваецца, што ўраджай збожжа перавышае ў гэтых першых на 10 цэнт., бульбы — на 100 цэнт., сена — на 34 цэнт., продаж малака з аднаго гектара — на 673 літры, продаж мясной жывёлы — на 213 кг, а прымяненне хімічнага ўгнаення перавышае на звыш 100 кг NPK на 1 га, нарыхтоўка сіласу — на 27 кг для адной жывёлы.

Вось за гэта іх паважаюць і ўзнагароджваюць, за гэта тост у іх гонар, да якога і мы далучаемся.

**М. Нурэцкі**

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ



*Селянін Сцяпан Пучынскі з вёскі Тарнопаль Гайнаўскага павету сіласуе траву, кукурузу, бурачанае лісце і такім чынам штогод, ад 1955 года пачынаючы, атрымлівае некалькі тон сочных кармоў. Зімою і ранняй вясною надта смакуюць яны жывёле.*

Фота **Я. Цялушэцкага**

(Працяг са стар 1)




сокая культура выканання ўсіх ролей, прадуманы кожны рух, жэст, слова і яго інтанацыя стваралі ўражанне, што на сцэне бачым не самадзейнікаў, а прафесіянальных акцёраў. Нават дзіцячыя ролі былі выкананы па-майстэрску, і журы прызнала **Тамары Мартынюк** і **Міколку Аляксеюку** спецыяльныя ўзнагароды „Зоркі" для самых малых самадзейнікаў.

Цалкам добра дэбютаваў адроджаны драматычны калектыў з **Гарадка** Беластоцкага павету, які пад кіраўніцтвам **Н. Мушынскай** паставіў **„Міхалку"**. Пры гэтым гарадоцкія самадзейнікі паказалі высокае апанаванне акцёрскай ігры, валоданне сцэнай і словам. А варта дадаць, што трое сярод усяе гарадоцкай чацвёркі ўпершыню прымалі ўдзел у пастаноўцы драматычнага твора. I ўдалая першая пастаноўка абяцае цікавую і багатую будучыню гэтаму калектыву. Журы прызнала яму **другое** месца.

Здаецца, што замала часу было на працу над творам паўстаўшаму некалькі месяцаў таму вучнёўскаму калектыву з **Бельскага беларускага ліцэя,** які пад кіраўніцтвам **З. Красоўскай** паставіў п'есу К. Губарэвіча **„Яраслаўскія вечары"** пра студэнцкія гады выдатнага нашага лірыка Максіма Багдановіча. Праўда, п'еса сваім зместам як мага болей адпавядала нашым ліцэістам, але гэта твор надзвычай складаны, ён пад сілу толькі прафесіянальнаму тэатру. Радуе тут нас тое, што ў гэтым ліцэі ўзнік драматычны калектыў і можна спадзявацца, што з бегам часу ён заваюе высокае месца ў нашай тэатральнай самадзейнасці. Журы прызнала яму **трэцяе месца.**

У катэгорыі фальклорных калектываў вылучаўся пастаноўкай **„Машэкі"** Е. Міровіча калектыў пад кіраўніцтвам **С. Місеюка** з **Дабрывады** Гайнаўскага павету. I ў выкананні, і ў пастаноўцы, і ў дэкарацыі тут чулася здольная і ўмелая рука кіраўніка гэтага калектыву. Твор, як вядома, надта багаты і складаны, у ім беларускія народныя абрады і звязаныя з імі песні спляліся ў адно цэлае з трагічным лёсам галоўнага героя. I паказаць усё гэта ў адпаведным асвятленні і прапорцыях — вельмі цяжкая справа. Але дабрывадскія самадзейнікі (аж 16 чалавек!) справіліся з заданнем належна. Занялі яны **першае** месца.

Калектыў з **Меляшкоў** Беластоцкага павету, што працуе пад кіраўніцтвам **З. Літвін,** прывёз у Бельск арыгінальныя колішнія **„Дажынкі"** з сярпамі, пярэвясламі, снапамі і „перапёлкай". Паліліся народныя жніўныя песні, зашалясцелі сцяблы жыта і са сцэны павеяла сапраўднымі дажынкамі, як было паўстагоддзя таму: з убіраннем „перапёлкі", „заячым хлебам", абліваннем вадою жанцоў, перавязваннем гаспадара і гаспадыні пярэвясламі, віншаваннямі, вясёлай вечарынкай і народнымі танцамі. Усё гэта каляровае, жывое, вясёлае. Здзіўляцца трэба таму, ці ў Меляшках і на самай справе, апрача хвацкага гарманіста **Ю. Доманя,** зусім перавяліся мужчыны? Калі гэта так, дык раім чароўным маладзіцам з Меляшкоў пазычыць у суседніх сёлах дзе якога малайца, хоць бы на вядучыя мужчынскія ролі ў пастаноўках. Журы прызнала меляшкоўскаму калектыву **другое** месца.

Са **„Сватамі-райкамі"** выступіў калектыў з **Тапчыкалаў** Бельскага павету, які дзейнічае пад кіраўніцтвам **В. Пракапюк.** I зноў на сцэне народны звычай, гэтым разам у цэнтры са сватам-райкам, торгам, вясельнымі песнямі, запоінамі, частаваннем сырам, павязваннем свату ручніка. Усё гэта арыгінальнае і займальнае, але ўсё ж і пры фальклорных пастаноўках аказваецца неабходным вельмі падрабязна прадуманы сцэнарый, які б прадбачваў кожнаму ўдзельніку інсцэніроўкі канкрэтную ролю, рух, выказванне, песню і г.д. Інакш людзі на сцэне разгубліваюцца, а дзеянне непатрэбна зацягваецца. Тапчыкалам журы прызнала **трэцяе** месца.

Кіраўнікі ўсіх калектываў таксама былі ўзнагароджаны.

Спраўна вяла агляд **Л. Васілюк.**

Што ж, доўгі, але і плённы быў агляд у Бельску.

**Ігнат Снарскі**

**Фота Я. Цялушэцкага.**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### НАЙБОЛЬШАЯ ДЭПРЭСІЯ

Найніжэй ляжыць Мёртвае мора (Палестына). Знаходзіцца яна на 375 метраў ніжэй узроўню Міжземнага мора. Наступныя тры месцы займаюць Лівійская пустыня (130 м), Мёртвая даліна ў Каліфорніі (45 м) і Каспійскае мора (28 м).

(ті)

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

# Нашаніўская пара

### АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА III

Творчасць Гаруна — з'ява складаная. Гарун быў паэтам, празаікам, драматургам. Але па сутнасці ніводзін з гэтых літаратурных жанраў не атрымаў у творчасці Гаруна поўнага развіцця. I як мог атрымаць, калі ўсё жыццё Гаруна было пасмам нелегальнай дзейнасці, цяжкай фізічнай працы, сібірскай ссылкі, хваробы. Зрэшты, жыў усяго трыццаць тры гады. Гэта ж па сутнасці маладосць. Нягледзячы на гэта, выявіў сябе ён як поўнакроўны паэт, як дзіцячы драматург, прадставіў сябе як чалавек з задаткамі празаіка.

Алесь Гарун быў, як і Максім Багдановіч, тыповым пісьменнікам-нашаніўцам. Некаторыя з крытыкаў звярталі ўвагу на падабенства паміж творчасцю гэтых пісьменнікаў. Падабенства тут досыць свабоднае, адлеглае, але супольныя элементы паміж гэтымі паэтамі ёсць. Гарун, як і Багдановіч, быў адарваны ад айчыны. Гарун, як і Багдановіч, быў хворы туберкулёзам. Хто ведае, ці якраз не гэтыя два моманты акрэслілі падобныя матывы ў іх творчасці?! Аднак у жыцці паэтаў і многа рознага. Багдановіч быў чалавекам з намнога грунтоўнейшымі літаратурнымі ведамі, чым Гарун. Розніца датычыцца таксама матэрыяльнага боку жыцця гэтых паэтаў. Багдановіч нават у найменшым працэнце не спазнаў той матэрыяльнай нядолі, якая спадарожнічала жыццю Гаруна.

Апрача аналогіі і розніцы ў жыцці паэтаў, можам гаварыць яшчэ аб прыродным характары іх таленту. У гэтым сэнсе можам, несумненна, гаварыць аб блізкасці Гаруна і Багдановіча.

Калі пераглядаем крытычную спадчыну Багдановіча, дык не раз сустракаем у ёй прозвішча Гаруна. З усіх выказванняў Багдановіча вынікае, што ён вельмі высока ацэньваў талент Гаруна і яго паэзію ставіў на ганаровым месцы ў беларускай літаратуры. Усё гэта і дазваляла нам гаварыць аб пабрацімстве лёсу і творчасці, аб узаемнай сімпатыі гэтых двух паэтаў, паэтаў, з якіх адзін памёр на 26, а другі на 33 годзе жыцця.

Алесь Гарун паходзіў з каталіцкага асяроддзя. Аднак факт гэты не скіраваў яго зацікаўленні ў бок польскай літаратуры і культуры ў такой ступені, як гэта мы бачылі ў выпадку Багушэвіча, Лучыны ці нават маладога Купалы. Чаму? Можа таму, што Гарун уваходзіў у свядомае самастойнае жыццё тады, калі былі ўжо даволі выразна зарысаваны формы беларускага нацыянальнага і культурнага руху. Маладосць Гаруна збеглася ў часе з першай рускай рэвалюцыяй. I ён так, як беларускі адраджэнчаскі нацыянальна-літаратурны рух, развіваўся на глебе, створанай рэвалюцыяй.

Да сённяшняга дня з'явілася не многа публікацый, якія выяснялі б біяграфічную і творчую спецыфіку Гаруна. Не многа таксама ведаем аб крышталізацыі яго нацыянальнай свядомасці. Падобна, значную ролю ў развіцці беларускіх пачуццяў у душы Гаруна мела яго сутыкненне напярэдадні першай рускай рэвалюцыі з адным з беларускіх твораў Дуніна-Марцінкевіча. Ці адразу пасля гэтага стаў Гарун свядомым беларусам — сказаць цяжка. Факт, што ў 1905 годзе пачынае пісаць па-беларуску. Мабыць, не без цяжкасцей. Справа ў тым, што ў дзяцінстве вучылі Гаруна па-польску і па-руску. Значыць, прыступаючы да пісання па-беларуску, запярэчыў ён характару адукацыі, атрыманай у школе.

Гарун як пісьменнік развіваўся дзякуючы дапамозе „Нашай нівы". На яе старонках паявіліся многія паэтычныя і празаічныя яго творы. Пісьменнік выступаў пад некалькімі псеўданімамі. Найчасцейшым паэтычным псеўданімам быў Гарун. Некаторыя свае творы падпісваў ён псеўданімам А. Сумны або Сальвэсь. Празаічныя творы падпісваў псеўданімам Жывіца. Гэты псеўданім не меў фікцыйнага характару. Жывіца — гэта дзявочае прозвішча маткі паэта.

Творчасць Гаруна даволі многагранная: патрыятычная лірыка, прыродаапісальная лірыка, грамадская лірыка, фальклорная лірыка, асабістая лірыка, проза, драматургія — гэта тыя галіны, якія ахарактарызуем у нашых чарговых адрэзках.

## У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ



*Традыцыя і сучаснасць.*



## Саматуж зрабіў трактар

Ці можна без спецыяльнай майстэрні, усяго толькі з пачатковай сямікласнай адукацыяй пабудаваць трактар?

Што такое зусім магчыма, толькі трэба канструктарская смякалка і настойлівая праца, даказаў **Янка Лук'янюк** з вёскі Цялушкі Беластоцкага павету. Самаробны трактар абышоўся яму ўсяго ў 30 тысяч злотых і зусім не ўступае фірменным, завадскім у моцы і зваротлівасці. Машына патрабуе тры літры паліва ў гадзіну.

Майстраваў яго Я. Лук'янюк год, а ў той час апрацоўваў гаспадарку і закончыў шафёрскі курс.

**І. Снарскі**
фота аўтара

(Працяг са стар. 3)

# ЯКІ САМІ ЗРОБІМ, ТАКІ І БУДЗЕ

Або яшчэ адна справа. Усе дыскутанты дамагаюцца, каб каляндар паяўляўся з друку на месяц-два раней перад новым годам. І слушна. Але ці вядома ім, што зацверджаны да друку машынапіс, напрыклад, календара на 1975 год, быў здадзены ў друкарню ў месяцы чэрвені 1974 года і праляжаў там чатыры доўгія месяцы на дне шафы і толькі ў канцы кастрычніка кіраўніцтва беластоцкай друкарні перадало яго ў машыннае аддзяленне да складання!.. Чаму? І на гэты раз зусім проста: у вытворчых планах Беластоцкага паліграфічнага прадпрыемства друк нашага календара з году ў год прадбачваецца на IV квартал. Усё. Кропка. Толькі дзякуючы ахвярнасці друкароў **В. Паповай** і **М. Папова** праца над ім магла быць закончана ў пачатку студзеня 1975 года.

І таму, калі мы хочам, каб наш каляндар быў на высокім узроўні ды выйшаў у адпаведным часе, не можам абмяжоўвацца толькі красамоўнымі тэорыямі ды прапановамі, а ўсе мы павінны старацца дасылаць у яго адпаведныя артыкулы і дапамагаць у тэрміновым выданні. Які ўсе мы самі зробім, такі і будзе наш каляндар.

**Мікалай Гайдук.**




## Ад страху перад будучыняй

Неяк часта так бывае, што калі чалавек пагадуе дзяцей, калі, здавалася б, за ім ужо ўсе жыццёвыя клопаты, дык трэба тады якраз ратавацца ад розных хвароб, змагацца за прадаўжэнне свайго жыцця. Гэтак было і з Сымонам. Дачакаўся, што яго трое дзяцей пайшлі працаваць і дастатак запанаваў у хаце. Але не споўнілася яму яшчэ і пяцідзесяці гадоў, калі заатакавала яго цяжкая хвароба. Галаўныя болі штораз больш яму дакучалі, часам аж да непрытомнасці даходзіла, нягледзячы на тое, што лекараў ён наведваў даволі часта. Пачаў ён баяцца за сваю будучыню.

„Не дай божа, звар'яцею, і буду цяжарам і ганьбай сям'і, — гэтая думка не давала яму спакою. — Лепш такіх дзён не дачакаць!" І пачаў рыхтавацца ён да смерці. Размовы заводзіў такія, у якіх даказваў, што няма вялікай розніцы, раней ці пазней чалавек памрэ. Аднойчы ў свабодны час прайшліся яны цэлаю сям'ёю па сваім мястэчку і, будучы каля могілак, заглянулі туды. І ўбачылі яны там магілы не толькі старых, але і даволі маладых людзей, а нават дзяцей. Нібы жартам, так між іншым, паказаў жонцы пальцам і сказаў: „Калі памру, мяне тут пахаваеш, на гэтай горачцы".

Прайшло некалькі тыдняў ад гэтага шпацыру, як наступіў чарговы прыступ галаўных боляў. Сымон страціў прытомнасць на некалькі гадзін і плёў розную рознасць, абражаючы гэтымі словамі жонку і дарослых дзяцей.

Калі апрытомнеў і даведаўся, што ён так паводзіў сябе, канчаткова вырашыў пакончыць самагубствам. Зрабіў гэта ў роднай хаце. (мх)

(Працяг са стар. 2)

цяпер у СССР другое месца пасля рускай літаратуры.

На заканчэнне сустрэчы Г. Кляўко і Г. Бураўкін пазнаёмілі слухачоў са сваімі новымі вершамі.

### АДНОСІНЫ ЯНКІ КУПАЛЫ ДА ПОЛЬШЧЫ

19 лютага г.г. у памяшканні варшаўскага аддзела БГКТ др А. Баршчэўскі выступіў з цікавым дакладам „Адносіны Я. Купалы да Польшчы".

Др А. Фядосік расказаў аб аграмаднай працы, якую праводзіць узначальваемы ім інстытут асабліва ў галіне збірання навуковай апрацоўкі і падрыхтоўкі да друку надзвычай багатага беларускага фальклору. Запланавана трыццацітамовае выданне беларускай вуснай народнай творчасці. Беларускі песенны фальклор з музычнай апрацоўкай выдаецца тэматычна. Выдадзены дагэтуль дзіцячы фальклор і вясельныя песні. Прысутныя на сустрэчы звярталіся з просьбай да др А. Фядосіка, каб інстытут у сваіх выданнях шырэй выкарыстоўваў багаты беларускі фальклор Беласточчыны.

## З жыцця варшаўскага аддзела БГКТ

### АЎТАРСКІ ВЕЧАР КАСТУСЯ БАНДАРУКА

26 лютага г.г. у клубе на Сенаторскай адбыўся цікавы аўтарскі вечар Кастуся Бандарука, маладога беларускага паэта, пражываючага ў Варшаве. К. Бандарук ужо чатыры гады змяшчае свае вершы і празаічныя мініяцюры на „Літстаронцы" ў „Ніве". Творы К. Бандарука рэфлексійныя, з філасофскім роздумам, напісаны прыгожай беларускай мовай.

К. Бандарук захапіў слухачоў сваёй сугестыўнасцю і скромнасцю. Ён таленавіты хлопец. Мае таксама і мастацкія здольнасці, малюе прыгожыя карціны, асабліва партрэты. Добра спявае. Іграе на гітары. Піша музыку да сваіх твораў і выконвае іх пад акампаніямент гітары. Нічога тады дзіўнага, што слухачы назвалі К. Бандарука „беларускім Акуджавай".

### СУСТРЭЧА З АНАТОЛЕМ ФЯДОСІКАМ

5 сакавіка г.г. варшаўскі аддзел БГКТ наладзіў цікавую сустрэчу з доктарам філалагічных навук Анатолем Фядосікам, намеснікам дырэктара Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР.

### АЎТАРСКІ ВЕЧАР ГЕОРГІЯ САРГОНІНА

Георгій Саргонін, член Саюза польскіх пісьменнікаў, рускі паэт, пражываючы ў Варшаве, нягледзячы на свае пажылыя ўжо гады, не спыняе творчай працы.

З нагоды выхаду ў свет новай кніжкі Г. Саргоніна „Тройка" 12 сакавіка г.г. на Сенаторскай адбыўся аўтарскі вечар паэта. Г. Саргонін пазнаёміў слухачоў са сваімі новымі, змешчанымі ў зборніку вершамі. Чытаў таксама свае пераклады вершаў У. Бранеўскага, Ю. Тувіма, Р. Дабравольскага, К. Галчынскага і інш.

У вечары прыняў удзел польскі паэт Т. Худы, член Саюза польскіх пісьменнікаў, які даў высокую ацэнку перакладчыцкай працы Г. Саргоніна.

На заканчэнне сустрэчы Г. Саргонін падпісваў слухачам зборнік „Тройка".

### МАКСІМ ТАНК І ПОЛЬШЧА

19 сакавіка г.г. др А. Баршчэўскі ў памяшканні аддзела выступіў са змястоўным дакладам „Максім Танк і Польшча".

**Віктар Швед**

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

*ХРЫСЦІННАЯ*

*Andante*



*Ой вы, ку-мань-кі, дай га-лу-бань-кі,*



*пад-па-і-лі мі-не, пад-па-і-лі мі-не.*

*Ой вы, куманькі, дай галубанькі,*
*падпаілі міне.* 2 разы
*Ой, пад соснаю, пад галоснаю*
*палажылі міне.* 2 разы
*Ой ты, сосенька, дай галосненька,*
*не шумі на міне.* 2 разы
*Ой ты, міленькай чорнабрывенькай,*
*не сварь на міне.* 2 разы
*Бо як ты будзеш дай сварыціся,*
*та я буду дай журыціся,*
*дай старая буду,*
*дай недужа буду.*

Ад Надзі Грыцук, 1910 года нараджэння, вёска Навасёлкі Беластоцкага павету, запісаў у кастрычніку 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

(Працяг са стар. 3)

# НАСТАЎНІК-ЗМАГАР

надзвычайнага палажэння на ўсходзе краіны, звальнення ад падаткаў працоўных мас і аблажэння гэтымі падаткамі заможных класаў, эфектыўнай барацьбы з беспрацоўем, ростам цэнаў і спекуляцыі шляхам увядзення рабочага кантролю над вытворчасцю і гандлем, права для поўнага самавызначэння для нацыянальных меншасцей.

У 1926 годзе С. Рак-Міхайлоўскі ўступае ў рады Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

Ноччу з 14 на 15 студзеня 1927 года С. Рак-Міхайлоўскі разам з Б. Тарашкевічам, П. Мятлой і П. Валошынам былі арыштаваны. Па ўсёй тагачаснай Заходняй Беларусі пачаўся крывавы разгром „Грамады" і пракацілася хваля тэрору і рэпрэсій.

На славутым працэсе 56-ці ў 1928 годзе ў Вільні, калі выносіўся прысуд вядучым дзеячам „Грамады", у сваёй прамове С. Рак-Міхайлоўскі сказаў: *„Я свае працы не выракаюся, ганаруся ўсёй сваёй 20-гадовай працай і ў вайсковых арганізацыях, і ў школьных, і ў палітычных. Не было ніводнай дзялянкі ў беларускай працы, у працы адраджэнцкай, дзе б я не прымаў самага актыўнага ўдзелу. Усёй сваёй папярэдняй працай, як і працай у „Грамадзе", магу ганарыцца і магу гэтым публічна пахваліцца. А „Грамада" раскалыхала народ, і гэта яе вялікая заслуга"*. Свядомы гістарычнай ролі, якую споўніла „Грамада" ў гісторыі беларускага народа, ён падкрэсліў: *„Грамада" пяройдзе ў гісторыю, і гэта дае нам сілу цярпець няволю ў турме"*.

С. Рак-Міхайлоўскі быў прыгавораны да 12 год турмы.

У 1931 годзе ў выніку абмену палітычнымі вязнямі ён выехаў у БССР, там доўгі час працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея ў Мінску, быў членам Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР. Памёр у 1937 годзе.

Усё жыццё і дзейнасць Сымона Рак-Міхайлоўскага — гэта вечна жывы ўзор настаўніка-змагара. (іс)




### ЗБОРНІЧКІ ГУДЭМЧУКА І ЗЛАТАКУДРА

Рэдакцыя сёлетняга „Украінскага календара" праявіла карысную ініцыятыву, выдаючы ўласную літаратурную бібліятэчку. Менавіта, выпушчаны асобнымі кніжачкамі вершы ўкраінскіх паэтаў у Народнай Польшчы — „Балтійські чайки" Якава Гудэмчука і „Народній Польщі" Івана Златакудра.

Як вынікае з біяграфічных даведак, аўтары зборнічкаў здаўна публікуюцца на старонках украінскага друку ў Польшчы і за мяжою. У абодвух іх за плячыма ўжо больш як палавіна жыцця. Дзякуючы ініцыятыўнасці рэдакцыі „Украінскага календара" зараз атрымалі яны магчымасць шырэй прадставіцца сваім чытачам.

Гудэмчук змясціў у сваёй кніжыцы дванаццаць лепшых твораў, напісаных на працягу пяцідзесяцігадовага жыцця. Златакудр, малодшы ад Гудэмчука на восем гадоў, гаворыць той жа моваю суму па мінулым, па дзяцінстве ды маладосці.

Паэт піша ў вершы „Мінулы час":

Чую: (...)
ліпа старая
шуміць каля школы,
стаіць ад квецця белага пасівелая.

І рытарычна пытае:

Дзе ж вы леты-годы
калісьці маладыя?

Паэзія Златакудра, калі так можна сказаць, болей паэтычная, універсальная сваёй эмацыянальнасцю. У аднаго і ў другога аўтара самыя лепшыя, самыя хвалюючыя радкі знаходзім аднак у лірычных вершах.

Здаецца мне, што гэта выдавецкая ініцыятыва ўкраінцаў з'яўляецца добрым падказам і нам.

**С. Яновіч**



## ФОТА ПА ЗАКАЗУ „DWA PLUS JEDEN"

Заказвалі Тамара Галіцкая з Трасцянкі, Тося Палаўянюк і Гепа Себясевіч з Парцава.

## ВЕР-НЕ-ВЕР КЛЁН

**Сёння падаем прагнозы галійскага гараскопа для людзей, нарадзіўшыхся паміж 11-20 красавіка і 14-23 кастрычніка.**

Клён бывае парадачны, задбаны, часамі нават крыху какетлівы. Часта бывае там, дзе наймадней, дзе элегантна, дзе найцікавей. Не належыць да шэрых постацей. Клён, як кажуць, не баіцца ніякіх перашкод.

Клён бывае крыху самалюбівы і, хаця з натуры недаверлівы і даволі нясмелы, умее, аднак, прымаць вельмі адважныя рашэнні, маторам якіх з'яўляюцца не столькі матэрыяльныя справы, колькі цікаўнасць да свету.

Любіць шмат бываць па-за домам, пазнаваць новых людзей і, зусім не стараючыся, мае дар правакаваць людзей на апавяданне аб сваіх інтымных справах. Але не бойся, калі выпадкова давялося табе штосьці яму сказаць. Няма ў яго звычаю асуджаць чужыя ўчынкі і ніколі нічога ён не паўтарае.

Ідэй мае заўсёды шмат. Часта нязвыклых, часамі экстравагантных. Любіць усялякія навінкі. З энтузіязмам абараняе авангард у кожнай постаці, але сам рэдка рэалізуе свае праекты. Не перашкаджае яму гэта аднак мець сатысфакцыю са сваіх шырокіх гарызонтаў.

У клёне ёсць крыху цынізму, не баіцца ён апініі, наадварот — любіць, каб аб ім гаварылі.

У каханні вельмі складаны. Ходзіць найдзіўнейшымі і не прадбачанымі дарогамі. Не азначае гэта аднак, што калі знойдзе партнёра з падобнымі думкамі і густам, не зможа быць з ім шчаслівым.

Розум клёна ясны. Нягледзячы на тое, што ва ўсіх справах у яго дамінуе рацыяналізм, не пазбаўлены ён ані інтуіцыі, ані фантазіі. Адным словам, клён — гэта чалавек markznabakovy.

**Астрон**




### ХВАРОБЫ СТРАЎНІКА

Усё часцей хваробы страўніка называюць „хваробай нашага веку", паколькі колькасць хворых язвай страўніка і дванаццаціперснай кішкі ўзрастае. Найбольш востра праяўляецца гэтая хвароба амаль дакладна з надыходам вясны і восені. Узнікае ў выніку нарушэння раўнавагі паміж магчымасцю страўнікавага соку ператраўляць страву і так званымі „абароннымі механізмамі", якія ахоўваюць слізістую абалонку ад яго ўздзеяння. Язва дванаццаціперснай кішкі паяўляецца найчасцей у выпадку павышанай кіслотнасці страўнікавага соку, яго занадта вялікай травеннай сілы; язва страўніка — з прычыны слабей дзейнічаючых „абаронных механізмаў" слізістай абалонкі. Узнікае, такім чынам, менш ці больш глыбокая рана ў сценцы страўніка ці дванаццаціперснай кішкі. Гэтая рана выклікае боль.

Якія ж прычыны ўзнікнення гэтай хваробы?

Шмат ёсць тэорый на гэтую тэму. Аднак усе сучасныя тэарэтыкі і клініцысты прытрымліваюцца той думкі, што рашаючую ролю ў гэтым адыгрываюць нарушэнні нервовай сістэмы, папулярна кажучы „нярвіца". І сапраўды, людзі гэтыя бываюць найчасцей вельмі нервовыя, моцна рэагуюць на розныя жыццёвыя сітуацыі, хаця часта па іх выгляду гэтага не відаць і ўсім здаецца, што яны людзі спакойныя. Калісьці найчасцей хварэлі гэтай хваробай мужчыны, цяпер — штораз часцей жанчыны і моладзь, перагружаная працай ці жывучая ў нейкім непакоі, вечна некуды спяшаючаяся.

Хворыя язвай страўніка ці дванаццаціперснай кішкі скардзяцца на болі з голаду, якія праходзяць пасля яды. Сапраўды, яда звязвае сольную кіслату, якая выклікае раздражненне ранкі. Таму пры пустым страўніку хворыя адчуваюць боль і тады ядуць часта.

Дыета ў хворых язвай страўніка ці дванаццаціперснай кішкі з'яўляецца справай індывідуальнай, яна залежыць ад перыяду хваробы. Здараецца таксама, што адны стравы добра пераносяць некаторыя хворыя, іншыя ж хворыя абсалютна гэтых страў не прымаюць. Найважнейшае, каб страву елі рэгулярна, амаль з гадзіннікам у руках. Страва не павінна быць ані занадта гарачая, ані занадта халодная. Абсалютна нельга есці страў смажаных, навараў з мяса і з касцей, страў тлустых, кансерваў, вострых прыправаў, алкаголю, чорнай кавы, моцнага чаю. Усё гэта значна пабуджае выдзяленне кіслага страўнікавага соку. Нельга таксама курыць папяросаў.

Трэба заўсёды памятаць, што хворы язвай страўніка ці дванаццаціперснай кішкі, незалежна ад таго, якой хваробай захварэе і да якога спецыяліста звернецца за парадай, павінен яму адразу сказаць, што мае язву. Ёсць лякарствы, якія пры язве павінны прымяняцца з вялікай развагай. Нават паўсюдна ўжываемыя ў нас парашкі ад болю галавы і аспірын для хворых язвай вельмі шкодныя.

**Эскулап**




**Дарагое „Сэрцайка"!**

Жыву я на вёсцы ў Бельскім павеце. Мне 19 год. Ужо мінула год часу, як я выйшла замуж. Пазнаёмілася я з Віктарам, маім мужам, на экскурсіі. Жыве ён далёка, у іншым ваяводстве. Працуе ў горадзе. Паказаўся ён мне тады вельмі мілы, ветлівы ды і прыгожы. Прыехаў раз, другі дадому, і падалі мы на запісы. Так і выйшла я замуж. Жыць надалей асталася ў бацькоў. Дзіцяці ў мяне няма. Віктар сказаў, што яшчэ няма ўмоў, перш падшукае кватэру і мяне забярэ. Спачатку прыязджаў нават часта да мяне, але потым штораз радзей. Лістаў таксама штораз менш атрымоўвала. Так прайшло больш года і ўрэшце, параіўшыся з мамай, я паехала да яго сама. На кватэры Віктара не застала. Прыйшоў позна ноччу. Убачыўшы мяне, нейк змяшаўся, потым доўга тлумачыўся, выкручваўся. Відаць было, што няпраўду гаворыць. Ды і па яго паводзінах відаць было, што не рад майму візіту. Пабыла я ў яго два дні і паехала дамоў. Ад Віктара не было ніякай весткі. Не прыязджаў, не пісаў. Нарэшце атрымала доўгачаканы ліст. Але Віктар пісаў, што пастанавіў адкрыта ўсё мне сказаць: што не кахае ён мяне, а мае іншую дзяўчыну, з ёю ходзіць ужо даволі доўга і хоча ажаніцца. Далей пісаў, што хоча падаць на развод. Дарагое „Сэрцайка", што мне рабіць? Я кахаю Віктара, як затрымаць яго пры сабе? Парай, буду вельмі ўдзячна!

**Ніна з Бельшчыны**

Ніна! Безнадзейная гэта справа. Віктар жа адкрыта табе сказаў, што жыць з табой не хоча, ды іншую дзяўчыну мае. Хоць табе і цяжка і прыкра, але, на жаль, мусіш з гэтым пагадзіцца. Добра яшчэ, што ў цябе няма дзіцяці. Зрабіла ты ў жыцці дзве памылкі: выйшла замуж, дакладна хлопца не пазнаўшы, а пасля не паехала разам з ім. Не падай духам, ты маладая, жыццё перад табой.

**„Сэрцайка"**

## Этнаграфічнае акенца



*Вуліца ў вёсцы Азяраны Малыя Сакольскага павету.* *Фота М. Гайдука.*




Так і прайшоў ён з гэтым псеўданімам „Сівы" па тылах вермахта. У разведаддзеле дывізіі ацанілі адвагу і знаходлівасць лейтэнанта Доўгінцава. Выдатнае веданне нямецкай мовы дапамагло яму стаць сапраўдным разведчыкам.

— Не бачу карты, — раптам сказаў Сівы.

— Я лепш згуляў бы ў шахматы, Мікалай, — неяк панура адазваўся Букрэеў. — Вайна ж на зыходзе.

Палкоўнік пацягнуў за шнур парцьеры, яна адсунулася і адкрыла дробнамаштабную карту Паўночнай Германіі.

— Гарадок у адзінаццаць літар, без разбегу не вымавіш, ён нам патрэбны. Манттомеры спяшаецца да Берліна, спяшаецца і 12-я армія Венка. У Берліне спадзяюцца на тое, што Венк са сваёй арміяй прарвецца да сталіцы. Але ім важна і іншае — не даць нам злучыцца з англічанамі і амерыканцамі. Вышэй за горад плаціна...

Букрэеў цяпер быў падобны на школьнага настаўніка. З указкай у руцэ ён стаяў ля карты і ціха расказваў, быццам вёў урок.

— У вадасховішчы сабрана каля сямі мільёнаў кубаметраў вады. Калі ўзарваць затворы шлюзаў, вада хлыне ў даліну, затопіць горад. Загінуць людзі. Акрамя таго, затрымаецца наша наступленне... Паслаць вялікую групу мы не можам, яна будзе вельмі прыкметная: тэрыторыя, па якой давядзецца ісці, нафаршыравана эсэсаўскімі часцямі. Службы абвера, СД таксама не спяць.

— Што вядома аб подступах да плаціны, яе варце? — спытаў Сівы, падыходзячы да карты.

— Невядомых у гэтым ураўненні больш, чым хацелася б, — Букрэеў цяжка апусціўся ў крэсла і ціха дадаў: — Варта ёсць, але мы не ведаем, колькі яе, мясцовасць на падыходах да плаціны адкрытая... Ведаем: каб пазбегнуць выпадковасцей, выбуховая канструкцыя схавана ў бункеры. Яны пастараюцца ўзарваць затворы ў апошнія мінуты, калі нашы войскі ўвойдуць у горад... У апошнюю мінуту, Мікалай... У гэтым уся справа... За кіламетр ад плаціны, у доме ля сямі соснаў, жыве стары немец Фрыдрых Грос, ён табе павінен дапамагчы. Але нельга выключаць магчымасці, што дом пад наглядам. Фатаграфію Гроса пакажа Сафонаў. Пароль — „Трапезунд адкрыты для караблёў", адказ — „З учарашняга дня"... Як толькі пачнецца штурм горада, у раён плаціны будзе выкінуты дэсант. Штурм пачнецца роўна ў шэсць гадзін раніцы: праз суткі пасля твайго ўходу...

Палкоўнік устаў, адразу ж заклаў рукі за спіну. Сівы ведаў гэты жэст: у Букрэева былі прастрэлены грудзі. У пакоі стала душна, нягледзячы на расчыненыя вокны, і палкоўніку цяжка дыхалася.

— Ты ж марыў стаць урачом? — раптам спытаў Букрэеў.

— Калі гэта было! Яшчэ да пагранічнага вучылішча, — усміхнуўся Сівы.

— Вучыўся і пакінуў трэці курс, — упарта пакруціў галавой палкоўнік, — ведаю. Перавязкі рабіць умееш, латынь разбіраеш, шпрыц ад скальпеля адрозніць зможаш.

— Значыць, пад урача?..

— Значыць, так. Маскіруючыся пад урача, табе лягчэй будзе прабірацца, дарога няблізкая... Дакументы падрыхтаваны. Пойдзеш без зброі. Сакваяж з інструментамі ў Сафонава. Ён цябе праводзіць з хлопцамі. А там змяшаешся з бежанцамі. І... няма ў нас з табой часу, давай развітаемся тут, зараз...

Букрэеў зрабіў крок наперад, абняў Сівога за плечы, як і пры сустрэчы, востра зазірнуў у вочы.

— Аб адным прашу цябе, Коля, — голас яго задрыжэў. — Застанься жывы...

— Як выйдзе, Савасцьяныч, — ціха адказаў Сівы.

* * *

Неба жаўцела над руінамі, якія яшчэ дыміліся. І было цяжка адрозніць, дзе заканчваецца шчэбень разбітых сцен і дзе пачынаюцца вуліцы. Дамы глядзелі пустымі глазніцамі вокнаў. З пашкоджаных труб ішоў газ і разам з каменным пылам казытаў ноздры.

І ўсё ж гэта было сапраўднае паветра, а не каналізацыйны смурод. І гэта быў варожы тыл, у які Сівога правялі сапёры па падземных камунікацыях горада.

# ТРЫБУНА чытачоў

## ВЫ-ДАТ-НА



Вельмі добра, калі ў вёсцы ёсць свой каваль. Могуць тады сяляне рамантаваць кожную рэч, ці нешта па заказу зрабіць. Сёння пайшла мода на драцяныя сеткі, якія ідуць на платы.

Усе такія заказы найлепш у нас выконвае малады каваль-рамеснік Іван Семянюк з Дубіч Царкоўных. Мае ён дасканалую кузню з навейшым тэхнічным абсталяваннем, напрыклад, савецкі такарны станок.

Семянюк — сапраўдны майстар і мае залатыя рукі. Аднак найахвотней выконвае драцяныя сеткі і вароты. Людзі з усёй Гайнаўшчыны, а нават з Бельскага павету штодзённа едуць да яго заказваць жалезныя платы. Работа ў Івана чыстая і недарагая. Ён закончыў прафесіянальную рамесную школу з выдатнай ацэнкай і выдатна вядзе сваю кузню. Сыну ў кузні часта памагае бацька Уладзімір Семянюк — чалавек кемлівы, таленавіты каваль і дасканалы тэхнік па рамонту розных машын. Сям'я Семенюкоў — інжынеры ад прыроды.

**М. Панфілюк**




### ДУХ ТАРАШКЕВІЧА

*Ён ходзіць за мною,*
*і голас я чую яго,*
*хоць ніколі ў жыцці*
*чуць гэтага голасу*
*я сапраўды не магла.*
*Гэта яго дух —*
*Браніслава Тарашкевіча.*
*Гаворыць ён простай мовай*
*на бельскай гаворцы.*
*А твар яго светлы, вясёлы,*
*яго вочы кажуць мне,*
*ісці проста ўперад сябе,*
*не агдядаючыся назад.*
*Праставаць жыцця свайго дарогу.*
*Дзяцінства для сябе захаваць,*
*а маладосць і энтузіязм*
*Айчыне падараваць.*
*Зноў я бачу яго постаць,*
*гэта ж яго дух*
*— Браніслава Тарашкевіча.*

**Ірына Грыгарук,**
вучаніца Бельскага беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча

---

З той мінуты, як ён праціснуўся ў вузкую гарлавіну падземнага калодзежа, прайшло доўгіх пяць гадзін. Праўда, па калектары ішлі ў поўны рост. Некалькі разоў падымаліся наверх. З-пад крышкі калодзежа, як у назіральную шчыліну ў танку, можна было назіраць за вуліцай.

Больш за ўсё баяліся мін, таму ішлі павольна, прамацваючы кожны метр мінашукальнікам.

Пануры сапёр з забінтаванай галавой у самым пачатку дарогі працягнуў Сівому ўкарочаны размінёрскі шчуп, надзеў на спіну скрынку з батарэямі, сунуў у рукі мінашукальнік. Навушнікі разведчык надзеў сам.

— Шукай асцярожна. Шчуп усоўвай у гэты бруд, як палец у мёд. Калі што, стукні мяне па плячы і замры!

Сапёр не ведаў, што Сівы ў шматлікіх сваіх пераходах цераз лінію фронту навучыўся знаходзіць і абясшкоджваць міны гэтак жа хутка і спрытна, як гэта рабілі сапёры-віртуозы з сапёрнага батальёна...

Цяпер усё ззаду. Скінуты гумавыя боты. Далонь правай рукі крыху баліць ад моцных развітальных поціскаў рук. Ён — у нямецкім горадзе з дакументамі берлінскага ўрача Конрада Шміца.

**(Працяг будзе)**

## Патрэбна ініцыятыва

Пажарнікі ў Дабрывадзе, на Гайнаўшчыне, не хочуць нічога будаваць. Як паставілі некалі маленькую драўляную паветку на свае рэчы, так і дагэтуль яна стаіць. Далей ініцыятывы не хапіла. Пажарнікі, а таксама ўсе жыхары вёскі, не змаглі давесці да канца адной вельмі важнай працы — будаўніцтва вадасховішча.

Некалькі год таму назад пажарнікі надумалі пабудаваць у вёсцы басейн. Магчымасці для гэтага тут ёсць. Праз вёску цячэ невялікі ручай. Было б крыху вынаходлівасці, грамадскай працы — і басейн быў бы гатовы. Дабрывадцам хапіла сілы толькі распачаць. Раскапалі ручай ля мосціка ў палове вёскі, ды так і засталося. Жывёла размясіла потым балота. Цяпер гэтае месца прыносіць толькі сорам. Няўжо жыхары вёскі вырашылі, што супрацьпажарны басейн ім не прыдасца? Даволі прыпомніць тут 1949 ці 1962 гады, калі ў вёсцы былі пажары. Як цяжка тады было змагацца з агнём без вады! Здаецца, варта ўсё ж прадумаць справу басейна і закончыць яго будаўніцтва.

**Мацейка**

## Тапаляны ў італьянскім фільме

Кінастудыя дакументальных фільмаў з Вроцлава і Варшавы наведала вёску Тапаляны ў Беластоцкім павеце. Рабілі тут здымкі для фільма „Далёкая дарога“, рэжысёрам якога з'яўляецца італьянец.

Чаму якраз Тапаляны? Таму, што падзеі фільма адбываюцца ў Расіі 1850 года. Абавязкова патрэбна была царква і старэнькія хаткі, якія якраз знаходзяцца ў Тапалянах. Сяляне і асабліва моладзь маглі атрымаць аўтограф акцёра Яна Энглерта, які выступаў у гэтым фільме. Многія ўпершыню бачылі на яве, як робіцца фільм.

**Мікола Краўчук**



## Гайнаўскія камітэты працуюць

Год таму назад у Гайнаўцы было выбрана 6 пасёлкавых камітэтаў. Старшынямі іх з'яўляюцца Генрык Пекут, Казімір Рох, Тадэуш Пастушэк, Антон Тарасевіч і Эдмунд Вайсковіч.

Адбыліся сходы жыхароў пасёлкаў, на якіх камітэты складалі справаздачу аб сваёй дзейнасці. Галоўныя справы, якімі за год займаліся камітэты — гэта грамадскія чыны, чысціня і парадак у пасёлках і панадворках.

Развіваецца супрацоўніцтва паміж камітэтамі ў культурна-асветнай і выхаваўчай дзейнасці, камітэты супрацоўнічаюць з грамадскімі арганізацыямі. Займаюцца таксама апекай і дапамогай людзям старым, хворым і адзінокім. Супрацоўнічаюць у гэтым з павятовым праўленнем Польскага камітэта грамадскай дапамогі.

**Раса**

## 30 год солтысам



У Сакольскім павеце ёсць вёска Шчасновічы. Солтысам тут Антон Шумінскі. Калі Савецкая Армія вызваліла нашы землі, трэба было агледнуцца за адпаведным чалавекам, які б умеў утрымаць парадак і пакіраваць працай вёскі. А дні нялёгкія былі тады. Не было бяспечнага ні дня, ні гадзіны. Былі такія людзі, якім народная ўлада не падабалася.

І вось, калі трэба было ў Шчасновічах выбраць солтыса, ніхто не хацеў ім стаць. Згадзіўся ўрэшце быць солтысам Антон Шумінскі. Абавязкі свае выконваў добрасумленна. Людзі былі задаволены. І так салтысуе Антон Шумінскі ў Шчасновічах аж да сённяшняга дня. Такіх солтысаў, якія б на працягу 30 год выконвалі гэтую функцыю, нямнога знойдзецца нават і ў краіне. Варта, каб улады падумалі пра нейкую, хоць скромную, узнагароду солтысу Шумінскаму на 22 ліпеня за яго доўгую і добрую працу.

**Э. Ш.**

##  У ЧАС АДПАЧЫНКУ 

Дом культуры „Калеяж“ у Чаромсе з'яўляецца адным з галоўных цэнтраў культурнага жыцця рабочага пасёлка. У ім адбываюцца розныя мерапрыемствы: выступленні мастацкіх калектываў, урачыстыя пасяджэнні, звязаныя з святкаваннем дзяржаўных гадавін, танцавальныя вечарыны і г.д. Тут таксама можна глядзець мастацкія фільмы.

Аб тым, як правялі чыгуначнікі вольны час у мінулым годзе, аб клопатах і планах на будучыню чаромхаўскіх дзеячоў культуры хачу і расказаць у гэтай публікацыі.

У 1974 годзе Чаромху наведала восем прафесіянальных калектываў. Прысутнасць на канцэртах — 220-230 чалавек (зала на 180 месц). З цікавейшых калектываў адзначым Ансамбль войскаў аховы пагранічча „Граніца“ з Варшавы і Беластоцкую эстраду з праграмай „Весела і цвяроза“. Чаромхаўцы мелі магчымасць убачыць добрыя самадзейныя калектывы: украінскі хор „Траянда“ з Любліна і беларускі „Васілёчкі“ з Бельска.

Чаромхаўскія чыгуначнікі з увагай сочаць і за пастаноўкай драматычнага тэатра імя А. Вянгеркі ў Беластоку. Кіраўніцтва „Калеяжа“ наладзіла пастаянны кантакт з дырэкцыяй тэатра. Тэатр прыязджаў у пасёлак 2 разы. Таксама 2 разы наведаў чаромхаўскіх дзяцей тэатр лялек „Свершч“ з Беластока.

Дом культуры вядзе шырокую асветную працу. Былі арганізаваны сустрэчы з выдатнымі людзьмі і даклады на грамадска-палітычныя тэмы. Да цікавейшых трэба залічыць сустрэчу з доктарам Аляксандрам Баршчэўскім і даклад Васіля Базылюка з Гайнаўкі „Культурна-асветныя дасягненні ПНР у перыяд 30-годдзя“.

У „Калеяжы“ дзейнічае і ўласны калектыў. Кіруе ім Міхась Артышэвіч. Два разы ў тыдзень адбываюцца рэпетыцыі. Дагэтуль чаромхаўскія вакалісты выступалі тры разы на ўрачыстых пасяджэннях з выпадку дзяржаўных гадавін і на цэнтральным аглядзе „Беларуская песня — 74“, дзе заваявалі III месца. З цікавейшых мерапрыемстваў можна яшчэ адзначыць працу фотааматарскай групы, якой кіруе Віктар Баранаў. Хачу сказаць аб гэтым юнаку некалькі слоў. Віктару 26 год. Працуе на ПКП. З культурна-асветнай працай звязаўся некалькі год таму назад. Цяпер з'яўляецца старшынёй грамадскай рады клуба, якая дзейнічае пры доме культуры. Арганізаваў фотавыстаўку: „Праца чыгуначнікаў у аб'ектыве“, „Людзі добрай работы“. За сваю працу не бярэ ніводнай залатоўкі. Гэта сапраўдны грамадскі дзеяч.

У заканчэнні — аб планах на будучыню. Аб гэтым расказвае кіраўнік дома культуры „Калеяж“, II сакратар вузлавога камітэта ПАРП Мікалай Гарадкевіч: „Планаў на будучыню ў нас многа. Аднак стварэнне добрага калектыву — гэта найбольшая наша мара. А тут клопат — няма адпаведнага інструктара. Будзем праводзіць размовы з былымі членамі калектыву, думаю, пашанцуе нам. Не менш важная справа — упарадкаваць плошчу вакол клуба. Хочам заладзіць фантаны, зрабіць пляцоўку для корта“.

Вышэй прадстаўленыя клопаты выступаюць у кожным калектыве. Самым вялікім, аднак, недахопам з'яўляецца тое, што клуб мае двух апекуноў. Адміністрацыйна ён падлягае сацыяльна-тэрытарыяльнаму цэнтру ў Седльцах, а арганізацыйна — радзе прафсаюза чыгуначнікаў у Варшаве. Калі прыйдзецца рашаць нейкую важную праблему, гэтыя ўстановы не могуць паміж сабой дагаварыцца. Усё ў канцы залежыць ад людзей. А такія людзі, як Гарадкевіч, Баранаў змогуць адолець многія цяжкасці.

**Мацейка**

## Дачакаліся вуліцы

Дагэтуль вуліца ў вёсцы Новы Востраў (Сакольскі павет) была такая балоцістая, што без добрых гумавых ботаў немагчыма было прайсці яе. Многа разоў гаварылі пра гэтую вуліцу на сесіі гміннай рады ў Шудзялаве, а таксама на вясковых сходах. Пісалі нават аб ёй у „Ніве“. Адказ быў такі: рабіце самі сваю вуліцу грамадскім чынам. Рабіць дык рабіць, але каму? Маладыя павыязджалі ў гарады, у вёсцы засталіся толькі старыя людзі.

У канцы канцоў аднак новавостраўцы пачалі рамантаваць вуліцу. Працавалі нават дзеці, нават вельмі старыя людзі. Хто з фурманкай, а хто з адной толькі лапатай. Трэба было зрабіць насып метровай вышыні. З дапамогай прыйшла спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў у Паўночным Востраве. Яна дала трактары з прычэпамі, каб можна было вазіць пясок і жвір. Таксама гміна ў Шудзялаве памагла фінансава.

Вынік? Вуліцу ў Востраве Новым не пазнаць. Люба глянуць сваім і чужым. Зрабілі самі сабе.

**Т. К.**

## Каму пазыку?

Як паінфармаваў намеснік дырэктара спулдзельчага банка — Мечыслаў Гмітэр, у гэтым годзе пачалася будова новага будынка для патрэб банка ў Гайнаўцы на вуліцы Вызвалення. Заканчэнне будоўлі прадбачваецца на вясну 1976 года.

Спулдзельчы банк у Гайнаўцы абслугоўвае аж 3 гміны: Гайнаўскую, Чыжоўскую і Белавежскую — гэта 3.814 гаспадароў. Каб палепшыць абслугу, банк увёў новую форму крэдытаў. У пачатку года гаспадар складае заяву на ўсе пакупкі і піша патрэбную на гэта суму грошай. Потым гэтыя грошы атрымлівае.

У 1974 г. банк выдаў пазыкі на розныя патрэбы гаспадароў — 9.943 тыс., пазыкі на інвестыцыі ў гаспадарцы — 1.179 тыс. зл., пазыкі для рамеснікаў, гандлю і паслуг — 297 тыс. зл., пазыкі на ратальныя пакупкі — 1.804 тыс., пазыкі для членаў банка — 712 тыс. Усіх пазык банк выдаў на суму 15.176 тыс. зл.

**Э. Вайсковіч**




**Антаніна Лісоўская, Беласток.** Верш надрукуем.

**Жэня Аўсенюк, Зубава.** Верш „Чаму ты...“ надрукуем.

**Галена Іванюк.** Справу, якую вы закранаеце ў сваім лісце, мы вышлем адпаведным уладам, каб разгледзелі і адказалі нам.

**Уладзімір Лушчынскі.** Пару слоў пра вашы вершы. Паспрабуйце дапрацаваць паасобныя радкі. Не ўжывайце фразаў з іншых вершаў, больш увагі на рытміку верша, пішыце выразней.

**Васіль Юравец, Грыбаўцы.** Верш „Гітлераўская навала“ надрукуем. Калі? Мо праз месяц.

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

30 год прайшло ад заканчэння вайны, а яе сляды ўсё яшчэ знаходзяцца на нашай зямлі. 13 сакавіка ў вёсцы Янкова-Младзянова (Ломжынскі пав.) пад вечар два хлопцы (Генрык — 12 год і Янка — 12 год), знайшоўшы снарад, майстравалі пры ім. У пэўным моманце снарад разарваўся і на месцы забіў Генрыка. Янку, цяжка параненага, завезлі ў бальніцу. Міліцыя вядзе следства ў гэтай справе.

На пераходзе для пешаходаў у Беластоку машына „Жук“ нумар 2908-АМ наехала на праходзячую жанчыну год 60-70 (прозвішча не ўстаноўлена). Цяжка параненую, яе завезлі ў бальніцу, ды там яна памерла.

NIWA Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch” Indeks 36911/36671.

# НЕ ТРЭБА, ДОКТАР!

— Доктар, дарагі, добры дзень! Паміраю... Рвіце яго хутчэй...

— Калі ласка, у крэсла. Так... Адкрыйце рот. Які, гэты? Та-ак, трэба вырываць.

— Доктар, мілы, толькі з наркозам. А то ў мяне і сэрца пабольвае...

— Вось як! А хто вы па прафесіі?

— Фельетаніст.

— Фельетаніст?.. Пачакайце. Ці не вы гэта тады?..

— Я, я!

— Ах, дык гэта вы-ы! Вельмі прыемна. Памятаеце, вы ціснулі сцэнку пра дантыста — нядбайнага, грубіяніна? Вы яго з граззю змяшалі...

— Так, здаецца, прыпамінаю. Быў якісьці Думітрэску...

— Так, так. Якісьці... Я і ёсць гэты самы Думітрэску.

— ??!

— Адкрыйце, калі ласка, рот.

— Які рот? Навошта рот?

— Зуб вырваць.

— Як гэта вырваць? Навошта вырываць? Нічога мне не трэба вырываць.

— Дык вы, здаецца, паміралі ад болю.

— Не-е! Усё прайшло. Парадак. Да пабачэння!

— Ну, глядзіце. Ад гэтага могуць сапсавацца суседнія.

— Так?

— Вядома. Сядайце, я зраблю вам укол.

— Ах, Божа мой! Зусім забыў. У мяне ж пасяджэнне. Пакінем гэта на заўтра... Можа, і зусім пройдзе. Ужо не баліць...

— Гэта ядоўга. Адзін момант — і ўсё.

— Што ўсё? З кім усё?

—З зубам. Адкрыйце рот. Та-ак. Трымайце, трымайце адкрытым... А чаму вы дрыжыцё? Ведаеце, я пасля таго вашага фельетона тыдзень з хаты не выходзіў... Сорамна было.

— Што гэта ў вас у руках?

— Экстрактар.

— Якія велізарныя клешчы!.. Як для коней.

— Шырэй рот, калі ласка... Дык вось, я хачу вам сказаць, што я тады зусім не быў вінаваты.

— Доктар, я прыду заўтра. Цяпер у мяне ўсё замарозілася, і нікага болю!

— Гэта немагчыма. Я зрабіў вам ін'екцыю. Адкрыйце рот... Та-ак, дык вось тады вы страшэнна памыліліся.

— Доктар, даражэнькі, а можа гэта клешчы толькі для вялікіх зубоў? У мяне ж зубкі дро-о-обненькія...

— Супакойцеся, у мяне адны клешчы для усіх зубоў. Адкрыйце рот. Так... Дарэчы, у той дзень, калі, па-вашаму, я „працаваў нядбайна", мяне наогул на службе не было...

— Доктар, мілы, вы мне толькі адзін зуб вырвеце?

— Вядома.

— І толькі той, што згніў? Там жа ёсць яшчэ і харошыя зубы...

— Ну ўжо вельмі харошых, ведаеце, не бачу.

— Харошыя ці дрэнныя, але яны мае. Заклінаю вас, пакіньце іх там на старых месцах.

— Не хвалюйцеся, я вырву толькі адзін, хворы.

— А калі памылкова здаровы рванеце?

— Ну, гэта рэдка здараецца. Адкрыйце рот. Так... Дык вось у нас у паліклініцы быў яшчэ адзін Думітрэску, а вы, не разабраўшыся, паставілі мае ініцыялы і прыпісалі яго грахі мне... Так-ак... Оп! Усё. Вось ён, ваш зуб.

— Гэты?

— Так.

— Гэта ён балеў?

— А ці ж па ім не відаць?

— Вы вялікі чалавек! Слова гонару. Пайду напішу дадатны артыкул — ды што артыкул, оду аб зубных лекарах. Аб вас напішу... Сардэчнае вам прывітанне і на праміль Бог прабачце за гнюсныя падазрэнні.

* * *

— А-а, добры дзень, доктар! Ну, як справы? Спадабаўся вам мой артыкул?

— Спадабаўся. Толькі вы зноў пераблыталі. Гэтым разам вы расхвалілі таго Думітрэску, а не мяне...

**Віктар Піцігой**

— Гэта мой патэнт на тое, як даваць дзецям лекі.






*Без слоў.*

# НІЎКА



*— Ало! Гэта ты, Юрка? Ці патрэбна яшчэ табе кватэра?*

### З ГАБРАВА

Аднойчы габравец атруціўся кілбасой. Лекар напісаў яму рэцэпт, і хворы прыйшоў з ім да кілбасніка.

— Вы памыліліся, — сказаў кілбаснік. — Тут не аптэка.

— Ніякай памылкі. Менавіта ў вас я купіў кілбасу, пасля якой мне спатрэбілася лякарства, — адказаў габравец.

### ДОБРА

— Куды ты паступіў вучыцца?

— У медыцынскую акадэмію.

— Гэта добра. А я паступіў на ветэрынарны факультэт. Калі мы закончым, зможам лячыць адзін другога.

### ДОКАЗ

Усё-такі жывёла значна вышэй людзей у сваім разумовым развіцці. Калі, напрыклад, дваццаць коней бягуць навыперадкі, пяць тысяч людзей плацяць грошы, каб паглядзець на іх. Вазьміце дваццаць чалавек, пусціце іх навыперадкі, і упэўніваю вас, ніводзін конь нават не зверне на іх увагі.

### ДЗЕ Ж ПАРАДАК?

Медсястра радзільнага дома адчыніла дзверы ў прыёмны пакой і, усміхаючыся, звярнулася да аднаго з мужчын:

— Віншую! У вас нарадзіўся хлопчык!

Другі мужчына, які сядзеў побач, са злосцю кінуў цыгарэту і сярдзіта сказаў:

— Дзе ж парадак, дзе справядлівасць? Я ж прыйшоў раней за яго.

### НІКУДЫ

— Гэта новая спявачка не можа пахваліцца ані слыхам, ні голасам!

— Адкуль ты ведаеш? Быў на яе канцэрце?

— Жонка мая была. Вярнуўшыся дахаты, яна праспявала мне ўвесь рэпертуар. І мушу сказаць, ён нікуды не варты.



...Надарваўся, намагаючыся падняць свой аўтарытэт.

...Яго душу растапталі уласныя пяткі: надта часта яна туды ўцякала.

### ДЗЯДЗЬКА

— Здароў, Кастусь! Што здарылася з тваім дзядзькам?

— Ён зламаў сабе руку.

— Як гэта сталася?

— Калі ён сядзеў за сталом, да яго непрыкметна падыйшла жонка і жартуючы ўкусіла яго за вуха. Дзядзька ад нечаканасці страціў прытомнасць.

— Гэта ўсё?

— Не. Жонка спужалася і выклікала „Хуткую дапамогу". Калі санітары неслі дзядзьку да машыны, ён апрытомнеў. Санітары спыталі, у чым справа. Той расказаў. Яны рассмяяліся, упусцілі насілкі, і дзядзька зламаў сабе руку.

### ЮЛЯ

Юля расказвае, што ў дзіцячым садзе рабілі ўколы. Пытаюцца, як яна сябе паводзіла.

— А я правай нажкай стала на левую, каб не збегчы.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ірэны Сегень з Каменя змяшчаем песню з рэпертуару А. Дамброўскага*

## NIEWCZESNA MIŁOŚĆ

**słowa: Andrzej Bianusz**
**Muzyka: Wiktor Kolankowski**

Niewczesna miłość,
spóźniona miłość,
to tak, jak gdyby wcale jej,
to tak, jak gdyby wcale jej,
to tak, jak gdyby wcale jej
nie było.
Niewczesna miłość,
spóźniona miłość,
co z tą miłością zrobić mam,
co z tą miłością zrobić mam,
gdy już przyzwyczaiłem się
być sam!

Gdy zjawiła się na czas,
odmienić wszystko mogła w nas,
ja sam byłbym kim innym też,
ale nie było wtedy jej
i tak znaczyła coraz mniej,
dziś już tylko jest tym, czym jest.

Niewczesna miłość,
spóźniona miłość,
choć nikt z nas nie powiedział:
nie!
Przypadek zdecydował, że
to wszystko już nie zdarzy się,
już nie!
Przypadek zdecydował, że
to wszystko już nie zdarzy się,
naprawdę już nie zdarzy się,
już nie!

— Доктар: — У вас, шаноўны, лішняя вага.
Загадчык базы: — А як яе спісаць?




### СЮРПРЫЗЫ СЕЛЬВЫ

Непраходная бразільская сельва хавае яшчэ нямала тайн. Нядаўна ў дзікіх зарасніках, якія прылягаюць да граніцы з Калумбіяй, „выяўлена"... безыменная 400-кіламетровая рака. А ў горным раёне каля граніцы з Венесуэлай, вядомым пад назвай Рараіма, батанікі сустрэлі расліны, якія жывяцца насякомымі. Да гэтага часу лічылася, што гэтыя драпежнікі з царства флоры жывуць у Афрыцы. Не менш дзіўным аказалася і выяўленае ў Рараіме невядомае возера. Даследчыкі мяркуюць, што ў ім акажуцца самыя надзвычайныя віды раслін і рыб, паколькі гэты валаём многія тысячагоддзі быў зусім ізаляваны.

### АВЕЧКІ ЯДУЦЬ ДАКУМЕНТЫ

За дзесяцігоддзі ў міністэрствах і іншых афіцыйных ведамствах Аўстраліі сабраліся горы ўсякага роду справаздач, урадавых дакладаў і іншых афіцыйных, але цяпер ужо ўстарэлых і нікому не патрэбных папер. Некаторыя канторы да столі забіты падшыўкамі са службовай перапіскай. Чыноўнікам няма дзе сядзець.

Знайсці выхад з такога становішча дапамог нейкі (цяпер ужо вядомы) доктар Бары Кумб — вучоны, які праводзіць навукова-даследчыя эксперыменты ў галіне харчавання жывёлы. Вось ён і вырашыў уключыць усе тыя дакументы ў... авечае меню. Як ні дзіўна, але авечкі з задавальненнем пачалі есці афіцыйныя справаздачы і ўрадавыя даклады ў спалучэнні з рознымі прыправамі.

Вынікі перавысілі ўсе чаканні — жывёла, адабраная для доследу, прыбавіла ў вазе і адчувае сябе выдатна.




**Людзі дзеляцца на тых, хто любіць крытыкаваць, і на тых, хто памірае натуральнай смерцю.**